
Альжбета Раманчук ➔ 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Жыдоўскія выхадцы ➔ 9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 13 (3333) Год LXV Беласток, 29 сакавік 2020 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Прыродная скарбніца без межаў


Вучні Гайнаўскага белліцэя з настаўніцай Алінай Пліс (другая справа) у Белавежскай пушчы

У Белавежскім нацыянальным парку 3 сакавіка была падпісана дамова на рэалізацыю вучнямі і настаўнікамі Агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым вывучэннем беларускай мовы ў Гайнаўцы і Дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя школа № 3 горада Пінска» трансгранічнага праекта «Прыродная скарбніца без межаў». У яго рамках прадбачваецца арганізацыя майстар-класаў і іншых заняткаў у памяшканнях і на прыродзе ў Гайнаўскім павеце і Пінскім раёне, будова адукацыйных прыродна-культурных цэнтраў у будынках Гайнаўскага белліцэя і Пінскай СШ № 3 ды выданне адукацыйных матэрыялаў. Знаёмства з раслiннасцю Белавежскай пушчы і Пінскага Палесся мае адбывацца з улікам мясцовых традыцый і культуры, таксама матэрыяльнай, якія ў жыцці беларусаў па абодвух баках мяжы суіснавалі ад пакаленняў неразлучна з мясцовай прыродай. Сувязі паміж прыродай, традыцыямі і культурай мясцовых беларусаў маюць даследаваць моладдзю і іх апекунамі, апісвацца і выкарыстоўвацца ў адукацыі цяперашнімі вучнямі і іх наследнікамі.

Шуканне сувязей паміж прыродай рэгіёна Белавежскай пушчы і традыцыямі, пра якія ведаюць старэйшыя беларусы Гайнаўшчыны, пачалося раней белліцэістамі пад апекай настаўніцы біялогіі Аліны Пліс, якая разам з вучнямі рэалізавала многія прыродныя праекты.

— З белліцэістамі мы раней рэалізавалі многа праектаў, у рамках якіх даследавалі прыроду Белавежскай пушчы і яе наваколля. Апошнім часам займаліся мы праектамі «Вялікія навукоўцы з малых мястэчак э-Прыроднік», «Воўк не такі страшны» і даследавалі генетычнае падабенства паміж сабакамі і ваўкамі. Ангажаваліся мы ў праект «Пушча і людзі», рэалізаваны пад наглядам Павятовага старасты ў Гайнаўцы. Аднак падумала я пашукаць сувязей паміж прыродай, традыцыямі і культурай мясцовых беларусаў. У рамках аднаго з праектаў адшукалі мы зёлкі, якімі карысталіся нашы продкі і запісвалі іх народныя назвы. Вучні даведаліся, што такое «сліпота», «лапухі» і як іх выкарыстоўвалі нашы продкі. Цяпер вучні вырошчваюць зёлкі ў рамках школьнай праграмы і ўстанаўліваюць іх дыялектныя назвы. Пазней я падумала, што можна было б у большым маштабе адшукаць, запісаць і выкарыстаць у будучыні сувязі паміж прыродай і жыццём продкаў. Мяняецца клімат, гінуць віды раслін, а таксама мяняюць людзі, якія добра ведалі лячэнне з прымяненнем зёлак. Цяпер апошні момант, каб такое зрабіць, — сказала настаўніца біялогіі Гайнаўскага белліцэя Аліна Пліс. — Паўстала ў мяне ідэя трансгранічнага праекта, у рамках якога белліцэйская моладзь магла б спалучыць даследаванне раслiннасці, выкарыстоўванай у народнай медыцыне, харчаванні і народным мастацтве, з даследаваннем мясцовай традыцыі, культуры і прыкладаў народнай творчасці з раслiннымі матывамі. Разам са старшым спецыялістам па справах наведвання Белавежскага нацыянальнага парку Аннай Герасімюк і з дапамогай старшага спецыяліста па справах адукацыі Асяродка прыроднай адукацыі БНП Ганны Шмідт мы стварылі аснову праекта. Праз Белавежскі нацыянальны парк і старшыню Мясцовага экалагічнага фонду «Заказнікі Брэсцкай вобласці» Мікалая Лукашука выйшлі мы на супрацоўніцтва з Сярэдняй школай № 3 у Пінску, у якой раней быў ужо вопыт і поспехі ў рэалізацыі шматлікіх праектаў. Мы разам з дырэктар пінскай школы Аленай Лабачэўскай, супрацоўнікамі БНП, Гайнаўскага стараства і прадстаўнікамі Рэспублікі Беларусь апрацавалі дэталі праекта «Прыродная скарбніца без межаў», які поўнасцю з'яўляецца нашым аўтарскім праектам.

У ходзе рэалізацыі праекта «Прыродная скарбніца без межаў» прадбачваецца паглыбленне ведаў аб прыродзе і яе суіснаванні з мясцовымі традыцыямі і культурай. Прадугледжваецца абмен вопытам і інфармацыяй паміж моладдзю і настаўнікамі Гайнаўшчыны і Піншчыны. Вучні маюць супольна вучыцца метадалогіі новай працы.

— Гэта вельмі цікавы праект і мне здаецца, што ўсе трыццаць гадоў маёй працы ў белліцэі я яго чакала. Гэта праект, які спалучае два бакі жыцця — беларускую культуру, нашы народныя традыцыі і прыроду. Яны разам суіснавалі заўсёды ў нашых сэрцах і галовах, у нашых песнях і думках, у нашай народнай творчасці. Мне здаецца, што мы, як такія сапраўдныя людзі адсюль, з гэтага свайго месца, не можам існаваць без акружаючай нас прыроды. У нашым праекце такі напрамак, каб паказаць і падтрымаць гэтыя сувязі і пазней увесці іх у школьную праграму. Мы не хочам толькі прайсці па тэме прыроды і культуры нашага рэгіёна, але падрыхтаваць вельмі цікавую рэч, якой яшчэ ў школе няма. У рамках праекта плануем падрыхтаваць сцэнарыі заняткаў з апрацаваным багатым уступам. У сцэнарыях будуць змешчаны інфармацыі і прапановы вядзення заняткаў для дашкольнікаў, вучняў падставовай школы і ліцэя. Калі настаўнікі схочуць арганізаваць заняткі па тэмах сувязей паміж прыродай, традыцыямі і культурай рэгіёна Белавежскай пушчы, будуць маглі выкарыстаць нашы матэрыялы і правесці цікавыя ўрокі. Цяпер апошні момант, каб схапіць тое, што нам так важнае і так хутка на нашых вачах гіне. Сёлетняя зіма паказала, што многа ў прыродзе можа прапасці хутчэй, чым мы думаем. Апошнім часам не толькі сохнуць дрэвы і раслiннасць Белавежскай пушчы, але і высякаюцца ліпы ды гіне натуральнае лякарства ад прастуды. У нашага праекта ёсць план абсадзіць ліпамі вялікі ўчастак пры школе ў Пінску. Пры нашым белліцэі мала свабоднага месца, але таксама хочам пасадзіць ліпу або дзве і запланавалі мы навучыць ліцэістаў карыстацца традыцыйнай лячэбнай раслiннасцю, якую будуць маглі пазней вырошчваць. Прадбачваецца таксама выданне буклетаў з адукацыйнымі матэрыяламі для грамадства, — сказала настаўніца біялогіі Аліна Пліс. — У рамках праекта будуць арганізаваны канкрэтныя мерапрыемствы. Будзе падрыхтоўка вучняў па тэмах праекта, якія пасля праведуць заняткі для сваіх равеснікаў. Запланавалі мы заняткі з настаўнікамі і можа завязацца больш цеснае супрацоўніцтва з Сярэдняй школай № 3 горада Пінска, якая, на маю думку, вельмі цікавы нам партнёр.

Выканаўцы праекта «Прыродная скарбніца без межаў» — перш за ўсё Гайнаўскі белліцэй і Сярэдняя школа № 3 у Пінску. Апрача школ адказнасць за рэалізацыю праекта на Гайнаўшчыне нясуць Гайнаўскае старасць і Белавежскі нацыянальны парк, а на Піншчыне — Упраўленне па адукацыі Пінскага гарвыканкама і Мясцовы экалагічны фонд «Заказнікі Брэсцкай вобласці». Дырэктары згаданых школ і прадстаўнікі названых устаноў 3 сакавіка падпісалі ў сядзібе Белавежскага нацыянальнага парку дамову аб рэалізацыі трансгранічнага праекта «Прыродная скарбніца без межаў».

— Калі праект мае абапірацца на прыродныя і культурныя багацці нашага і пінскага рэгіёнаў, то хто ж мае яго рэалізаваць на Гайнаўшчыне, як не вучні

чытайце ☞ 4





# Радыё

Дарога з Гародні ў Мінск даволі далёкая. Яна то зараз новая, шырокая. Не тое, што раней. Ехаць нашмат прыемней чым некалькі год таму. Але адлегласці да беларускай сталіцы навізна гэтай дарогі не змяншае. Таму як не круці, а шлях не блізкі ды яшчэ крыху нуднаваты. Бо як на мой густ, будаўніцтва непазбежна папсавала там-сям прыродныя ландшафты. І пакуль прырода іх яшчэ не аднавіла натуральным чынам, то некаторыя пейзажы наводзяць на сум. І каб не радыё…

Ну ды ўсё па парадку. Выехаў я, значыць, з самага ранку. Ну і як заўсёды ўключыў любімую хвалю 98,1 FM, на якіх са слаўнага горада Беластока на тэрыторыю не менш слаўнай Гарадзеншчыны прадстаўляе яе жыхарам свае праграмы Беларускае Радыё Рацыя. Зразумела, першае, што прыйшлося пачуць на гэтай хвалі, гэта пра стан з новым каранавірусам. Журналісты даходліва і падрабязна апісалі сітуацыю з каранавірусам у свеце, распавялі дзе і як ад яго ратуюцца, якая прафілактыка паказала сябе больш эфектыўнай, і яшчэ дадалі да гэтага многа цікавай і патрэбнай інфармацыі. Пасля пайшлі іншыя навіны, музыка. Радыё ўсё ж. А праз нейкі час свежыя навіны, і новыя факты пра той каранавірус, які Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя абʼяўлены пандэміяй, і ад якога ратуецца зараз увесь свет.

Дай, думаю, паслухаю, што пра той вірус кажуць беларускія радыёстанцыі. Балазе магнітола ў мяне добрая, ловіць вялікі абсяг. Уключаю, значыць, іншую хвалю — айчынную, беларускую. А там музыка, жарты, анекдоты, усё як і трэба на радыё ў бестурботныя часы. Вось толькі ў навінах пра каранавірус не сказалі ні слова. Як і няма яго ўсё адно таго віруса. Уключаю другую хвалю, трэцюю, чацвёртую, пятую… Сітуацыя ідэнтычная. Зноў вяртаюся да Беларускага Радыё Рацыя. Там кажуць, што вірус ёсць і даюць нейкія рэцэпты, як ад яго ратавацца. Уключаю іншыя хвалі… Як на іншай планеце…

Я не медык, і мне цяжка ацаніць ступень небяспекі, якая зыходзіць ад новага каранавіруса. І медыкі ў мяне не працуюць таксама, каб можна было спытацца непасрэдна. Але яны працуюць у маёй дзяржаве. Лагічна, калі мая дзяржава апытае іх праз свае структуры, якіх безліч, возьме неабходныя рэкамендацыі і данясе іх да мяне. Хаця б праз радыё данясе, якіх таксама не бракуе. І калі ёсць такая кваліфікаваная думка, што нічога рабіць не трэба, усё само па сабе ўтрасецца, то хай так і скажа, спасылаўшыся на аўтарытэтных спецыялістаў. Калі ж нешта рабіць трэба, то хай скажа што. Але пакуль што маем толькі тое, што пакрыўджанае паводзінамі суайчыннікаў міністэрства аховы здароўя зрабіла не медыцынскую, а палітычную заяву, абазваўшы людзей, што шукаюць паратунку, панікёрамі і заклікала не мітусіцца. Гэта я сваімі словамі скараціў тую доўгую не медыцынскую прамову.

Медыкам то ў нас людзі вераць. І не здарма. Бо як трапна сказаў пра паслясавецкую медыцыну вядомы расійскі літаратар Дзмітрый Быкаў, наша медыцына лепшая, чым што іншае наша паслясавецкае. Бо, прыкладам, з сістэмы адукацыі выходзіць нашмат больш дурняў, чым з рук медыкаў нявылечаных. І сапраўды, усё ў заняпадзе. Але сярод гэтага ўсеагульнага заняпаду наша медыцына хіба і праўда лепшая за нашу палітыку, эканоміку, сістэму кіравання, сельскую гаспадарку і ўсё астатняе. Таму людзі да слоў медыкаў прыслухоўваюцца. Тым больш, што няма другой альтэрнатывы. І тут на табе. Міністэрства аховы здароўя выступае больш з палітычнай заявай, чым з медычнай. А палітычнае кіраўніцтва краіны робіць медыцынскія заявы.

Ну што тут зробіш… Пераключаюся зноў на хвалі Беларускага Радыё Рацыя. Балазе яно вялікі абсяг пакрывае. Напэўна многія на Гарадзеншчыне скарыстаюцца яго парадамі. І тыя структуры, ад якіх залежыць эфектыўнасць існавання гэтага радыё, хіба што мусяць улічыць і ацаніць гэты факт. Прынамсі, зыходзячы з тых парад, можа хто зможа зберагчы сваё здароўе, ці жыццё, ці не дасць распаўсюджвацца хваробам далей…

Ды і з іншымі гарачымі тэмамі справа падобная. Бо на іншых хвалях я не пачуў асаблівай зацікаўленасці імі, як не стараўся.

А дарога ў Мінск, як я ўжо казаў, даволі далёкая, і натуральна што крыху стамляе. І каб не радыё…

Віктар САЗОНАЎ

# Данос

Ёсць людзі, якія чытаюць таму, што любяць чытаць, але ёсць і такія, хто аддае перавагу ананімнаму пісьменству, якое звычайна зʼяўляецца клапатлівым даносам. Аднойчы мне давялося паглядзець архіў рассакрэчаных даносаў грамадзян — найчасцей Добразычлівцаў. Праўда, наўрад ці хто-небудзь спрабаваў быць арыгінальным у гэтым плане. Пасля яны былі Заклапочанымі і Абуранымі абодвух палоў. Выключна адна была Засмучанай, а адзін — Справядлівым. Хоць подпісы пад даносамі былі тыповыя, іх форма і змест здзіўлялі разнастайнасцю стыляў і мноствам метафарычных назіранняў. Мяне асабліва ўразіў той, які я памятаю і сёння: „гэта крывадушная зебра з радаводам рэптыльнага бабуіна …”. Хіба ж гэта не прыгожа?!. На жаль, усе даносы ўтрымлівалі нейкі недахоп, ці то арфаграфічнага характару ці — так сказаць — эстэтычнага. У апошнім выпадку яны былі ўпэцканыя тлустымі плямамі, верагодна, ад рапсавага алею другога прасавання ці сапсаванага маргарыну, з чаго я зрабіў выснову, што створаны яны былі ва ўтульнасці хатняга ачагу, у ягоным стратэгічным цэнтры — на кухонным стале, які ў рэшце рэшт зʼяўляецца сферай жанчыны. Ці былі яны стваральніцамі гэтых даносаў? Якая падманная падказка! У гэтым выпадку дакумент, на якім быў напісаны данос, не быў бы ўпярэшчаны тлушчам. Улічваючы прыроджаную акуратнасць жанчын, яны выцiралі б стол раней — аўтаматычна. Несумненна, што большасць даносаў была напісана мужчынамі, што было відаць пры дбайным аналізе. У большасці выпадкаў ананімныя лісты напісаны мужчынскім, гатычным почыркам. Аднак, улічваючы несумненнае месца іх запісу, на кухонным сталe, я высунуў смелую гіпотэзу пра тое, што яны былі зроблены калектыўнымі намаганнямі гіпатэтычнага сужонства альбо згодных сужыцеляў. Гэта азначае, што Ён кампульсіўна запісваў тое, што дапякала яму ў печані, а Яна падказвала яму новыя і не менш важныя матывы. Таксама кампульсіўна. У выніку былі створаны сапраўды мастацкія творы, не пазбаўленыя таленту і творчай фантазіі, што пацвярджае старадаўнюю тэорыю, што невялікі данос можа стаць заквaскай вялікай літаратуры. Пацвярджанне таму — прыклад некалькіх вялікіх польскіх пісьменнікаў. Не прывяду тут іх імёнаў. У рэшце рэшт, ніхто не вінаваты ў тым, што іх кнігі распаўсюджваліся ў вялікай колькасці і да гэтага часу зʼяўляюцца гонарам многіх бібліятэк. Таксама маёй. У рэшце рэшт, я не маю на ўвазе, каб данесці на пішучых, а выключна на нечытаючых. Іх колькасць пастаянна расце ў геаметрычнай прагрэсіі. Асабіста я ведаю шмат людзей, якія адштурхоўваюцца ад друкаванага слова, і на саму думку, што яны возьмуць кнігу ці нават газету, іх спіны асыпае сапраўдная гусіная скурка. Па іроніі лёсу стваральнік друку, якога мы ведаем пад сурʼёзным імем Іагана Гутэнберга, які яшчэ да таго, як пачаў высакароднюю вытворчасць друкаваных кніг, называўся — як жа ж сціпла! — дaслоўна перакладзена з нямецкай мовы Янка Гусінаяскурка!

Як аказваецца, пандэмія каранавіруса — гэта нішто ў параўнанні з пандэміяй нечытальніцтва. А можа, шырокай дэграматнасці? Я спадзяваўся, што абавязковы масавы карaнцін маіх землякоў у эпоху каранавіруснай чумы павысіць чытальніцтва кніг і газет, але я памыляўся. Самы запатрабаваны артыкул зараз — туалетная папера! Будзь з рамонкам ці алоэ, трохслаёвая ці звычайная, шэрая. Нібы туалетная папера стала асновай нашай культуры і цывілізацыі. Не кніга. Што б сказаў вялікі амерыканскі пісьменнік Эрнэст Хэмінгуэй, які гадзінамі сядзеў у туалеце і чытаў у ім кнігі? Дарэчы, задавальняючы свае цялесныя і духоўныя патрэбы адначасова. З цягам часу ён нават сабраў там вялікую бібліятэку, якой не пасаромеліся б многія інтэлектуалы. Ну, наша цывілізацыя ўжо даўно забыла, чым ёсць туалет на самой справе. Прызнаюся, у маім дзяцінстве, задоўга да таго, як я пайшоў у школу, калі туалетная папера была раскошай, якую ведаў не кожны ядок хлеба, і яе ролю адыгрывала разарваная газета, — менавіта ў прыбіральні я навучыўся складаць літары ў словы. Там, нарэшце, нікога не турбуючы, я асабіста прачытаў сваю першую кнігу. Казкі Андэрсена. Толькі хто сёння хоча чытаць Андэрсена? Таму я паведамляю, што наша цывілізацыя падыходзіць да канца. Каранавірус не мае да гэтага ніякага дачынення.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Адказнасць усіх нас

Нервы, стрэс, страх — так найкарацей можна апісаць стан духу і цела, у якім апынуліся зараз не паасобныя людзі, народы, але ўся сусветная грамадскасць. І то не на жарты. Перад нябачаным забойцам — каранавірусам — усе раптам становяцца роўнымі і спалоханымі: бедныя і багатыя, хворыя і здаровыя, мужчыны і жанчыны, семʼі і адзінокія. А ёсць чаго баяцца. Гэта ўжо не сенсацыйная літаратура ці футурыстычнае кіно пра пандэмічнае знішчэнне зямнога жыцця. Віртуальныя гульні і фільмы вокамгненна сталі рэальнай пагрозай, ад якой няма пакуль вакцыны жыцця. Такая нябачная вайна, у якой увесь час паміраюць людзі не ад бомбаў, куль, снарадаў, выклікае пачуццё бяссільнасці і знявераннасці. Асабліва ў тых, якім да гэтай пары здавалася, што чалавечым розумам і высокаразвітой тэхнікай і медыцынай можна заваёўваць усё і ахоўваць сябе быццам у жыватворнай баньцы. А тут усё лопнула. З планаў каланізацыі космасу даволі жорстка зведзены мы ізноў на зямлю. А як бачым, што і раз у большым ліку прыходзіць і прыйдзецца, на жаль, многім адысці неўзабаве і пад зямлю. Сітуацыя з пандэміяй выклікае звычайны, чалавечы шок. Адтуль у свеце ўзнікае столькі змоўніцкіх тэорый наконт узнікнення і ўзбуйнення каранавіруса. Маем і касмічныя тут сілы, і змову багатых, каб яшчэ больш зарабіць на чалавечым няшчасці, і палітычныя парахункі, ці некантраляваную ўцечку віруса з даследчыцкіх лабараторый. Адным словам, поўная панарама чалавечых уяўленняў і страхаў у высокаэмацыянальнай гарачцы чалавечага розуму і душы. У такой сітуацыі непазбежна перад вачыма ўзнікае прытча пра чатырох ездакоў Апакаліпсіса, якія прадвяшчаюць канец зямнога жыцця. Вось па чарзе гэта Вайна, Зараза, Голад і Смерць. Для людзей веруючых адна з прыкмет кары і надыходзячага Страшнага суда здзяйсняецца менавіта на нашых вачах. «Як трывога, то да Бога», — паўтаралі стагоддзямі ў звычайным парадку нашы продкі. І папаўняліся тады тысячамі вернікаў храмы ўсіх канфесій свету, каб утуліцца ў таемную моц супольнай малітвы і адчуць еднасць і духоўную моц намоленых святыняў. Дзеля перамогі — той духоўнай і фізічна відавочнай. А тут аказваецца ўсё наадварот. Епіскапы і святары не толькі не просяць, але і наказваюць, каб не пераступаць без лішняй патрэбы і колькасці парогаў храмаў, дзеля... чалавечага жыцця. Застаюцца толькі медыя і малітва па тэлевізары і радыё. Як доўга прыйдзецца зжыцца са светам сакрум на шкляным, бяздушным экране, без адчування жывога, чалавечага дыхання? Такому ходу падзей хіба можа цешыцца толькі дʼябальская частка гэтага свету, што хоча нашага зняверання і адрачэння ад хрысціянскіх каштоўнасцей і такога ж ладу жыцця. Пытанні можна ставіць і ўявлічваць, але не прыносяць яны супакою ані для душы, ані для існавання ў грамадскім вымярэнні. Менавіта тут, у нас, на падляшскай усходняй сцяне з яе дэмаграфічнай, узроставай структурай грамадства існуюць медычныя прадпасылкі наконт патэнцыйных захворванняў сярод старэйшых жыхароў. Таму нам усім трэба быць вельмі адказнымі і асцярожнымі з непадуманымі кантактамі нас і нашых дзяцей са сваімі бацькамі і дзядулямі. Вельмі важнае ўслухацца ў галасы спецыялістаў у гэтай справе.

А то неразумныміі, спанікаванымі паездкамі можам больш нашкодзіць, чымсьці нарабіць дабра, уцякаючы ўсёй сямейкай у бацькоўскую вёску, ці адпраўляючы туды толькі сваіх дзяцей. Дастаткова глянуць, што здарылася з пераносам каранавіруса з паўночнай у паўднёвую Італію. Таму ў такіх цяжкіх хвілінах абавязкова перасцерагайма заклікаў санітарных улад да абавязковага правядзення часу ў хатнім рэжыме. Самаабмежаванне на сённяшні дзень зʼяўляецца менавіта тым рэальным фактарам, якім даем прыклад адказнасці за сябе і нашых блізкіх. А быць адказным у свой час і момант — гэта доказ нашай чалавечнасці, пашаны і веры ў здаровую і нармальную будучыню.

Яўген ВАПА

Настаўнікі роднай мовы

# Калі б было больш гадзін, я выкарыстала б іх ушчэнт



**Альжбета РАМАНЧУК** нарадзілася ў Гайнаўцы і там вучылася ў белліцэі. Час дзяцінства правяла пры дзядулях у Вілінаве каля Мельніка, якія навучылі, як сама кажа, цаніць зямлю, шанаваць хлеб і любіць Бога. У пачатковай школе ў Чаромсе марыла вучыць сваіх сяброў і дасягнула гэтага пасля заканчэння беларусістыкі ў Беластоку. Трынаццаць гадоў працуе ў школе ў Гарадку, раней працавала ў Чаромсе, як першая навучала беларускай мове ў Міхалове, дванаццаць гадоў працавала ў Залуках, якія займалі ў яе сэрцы выключнае месца. Жыве ў Гайнаўцы, мае дзве дачкі. Штодзень ездзіць 50 км на работу і слухае кніжак. Гэта, як сама кажа, „мой час”. І вельмі любіць працаваць у агародзе і ў садзе.

— **Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Я заўсёды марыла, каб стаць настаўніцай. Ужо ў пачатковай школе з ахвотаю дапамагала сваім настаўнікам і падымалася весці ўрокі напрыклад, у Дзень настаўніка.

— **Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Вучыць — гэта перадаваць частку сябе вучням. Сапраўдны настаўнік заангажаваны, слухае і адчувае душу дзіцяці. Ідэалаў няма, а добры настаўнік гэта чалавек, які пахіліцца над слабым, знойдзе спосаб заахвоціць сваімі справамі кожнага вучня.

— **Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Маёй сяброўкай ад пачатку работы была Тамара Бялькевіч, чалавек, пры якім я аддыхала і ўсялякія праблемы станавіліся меншымі. Подых энергіі давала мне Ніна Абрамюк, заўсёды маладая, поўная жыцця і вельмі цёплая асоба.

— **Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Я карыстаюся дапамогай Цэнтра культуры Беларусі і тыднёвіка „Ніва”. Вельмі спрыяюць маёй рабоце Цэнтр культуры ў Гарадку і „Гарадоцкія навіны”.

— **Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Я ўключаю вучняў у інавацыі, якія сама пішу, і ў рэгіянальныя элементы (песні, абрады), а таксама гістарычныя весткі. Прадстаўляю іх найчасцей у форме драмы. Апошнім часам падрыхтавалі мы інтэрв'ю з жыхарамі Гарадка з мэтай паказаць жыццё ў час вайны. У прошлым годзе супольна з Аняй Гжэсь бралі мы ўдзел у праекце „Эрасмус па-польску”, дзе вучні з Лодзі пазнавалі беларускую культуру.

— **Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Ваяводскі конкурс па беларускай мове паводле мяне самы важны дзецям і бацькам, а калі ёсць падтрымка бацькоў, тады і дзеці працуюць добра.

— **Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Мне памагаюць бацькі ў падрыхтоўцы да мерапрыемстваў і магу лічыць на Гарадоцкі цэнтр культуры.

— **Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Бывае па-рознаму.

— **Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Калі б было больш гадзін, я выкарыстала б іх ушчэнт.

— **Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— У гэтым годзе ў нас адна фіналістка.

— **Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Не.

— **Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— „Са спадчынай у будучыню”

— **Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Зорка беларускай паэзіі — Максім Багдановіч.

— **Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Чытаю сваім дзеткам „Мышку Пік-Пік”, а іншыя слухаю, едучы на работу.

— **Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Так.

— **Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Сустрэча культур.

— **Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Не, вучні гавораць толькі на польскай мове.

— **Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Не, здараюцца цяжкасці, але кожную праблему трэба вырашыць.

— **Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Дакументы, мноства паперак, цераз якія мушу адыходзіць ад сапраўднай працы з вучнямі.

— **Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Не.

— **Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Так, я часта атрымліваю ўзнагароды дырэктара за сваю працу.

— **Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Добры сцэнарый дае мне мноства сілы і задавальнення, я іх пішу сама.

— **Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Я падрыхтавала „Самых сваіх” па-беларуску. У час прадстаўлення ўсе былі задаволены, а адна сяброўка амаль не ўпала з крэсла, так смяялася.

— **Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Пагоня.

— **Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Сіла дрэмле ў маладых. Яны адчуюць патрэбу «беларусамі звацца» і гаварыць па-беларуску.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Сусветны дзень лесу

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый 21 сакавіка 2012 года ўстанавіла Сусветным днём лесу. З таго часу адзначаецца ён ва ўсім свеце. Харчовая і сельскагаспадарчая арганізацыя Аб'яднаных Нацый (ФАО), арганізуючы святкаванні, штогод рэкамендуе ідэі, прысвечаныя лясной гаспадарцы. У мінулым годзе, напрыклад, тэмай Сусветнага дня лесу было „Лясы і адукацыя", а лозунгам святкавання — „Навучыся любіць лясы". Дзяржаўная санітарная інспекцыя разам з Дзяржаўнымі лясамі пачалі супольную акцыю пад лозунгам „Пасадзі для здароўя", якая зводзілася да пасадкі шаснаццаці тысяч айчынных відаў дрэў і кустоў на тэрыторыі прыналежный гэтым установам.

У нашай краіне чысло 21 сакавіка вядомае як пачатак астранамічнай вясны, а ў сістэме адукацыі — як дзень прагульшчыка («вагаровіча»). У цяньку двух першых вышэйзгаданых падзей скрываецца сёлета свята леснікоў і працаўнікоў дзяржаўнай санітарнай інспекцыі — Сусветны дзень лесу. У штодзённым жыцці чалавека лес мае важнае значэнне, можна сказаць неабходнае для існавання чалавечага роду. Для шматмільённых відаў раслінак і жывёл з'яўляецца ён адзіным, натуральным месцам жыцця. Незаменным багаццем лесу з'яўляецца драўніна. Выкарыстоўваецца яна для вытворчасці мэблі, паперы, як будаўнічы матэрыял, ці апал для ацяплення дамоў. Лес з'яўляецца спіжарняй ягад, грыбоў, лекавых зёлак ды чыстага паветра. За апошняе стагоддзе было высечана 50% усяе плошчы лясоў, што з'яўляецца асноўным фактарам, які паўплываў на ўзмацненне парніковага эфекту. Першы дзень вясны гэта нагода для лясного шпацыру па лясных сцяжынках, назірання за абуджаючайся пасля зімы натурай і ўсведамлення сабе таго, што можна зрабіць добрага для асяроддзя, у якім жывем.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Вясна прыляцела на крылах буслоў

Сёлета ў Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета буслы прыляцелі 19 сакавіка. Вясну прынеслі яны нам на сваіх крылах. Прынеслі нам радасць. Мы рады іх звароту пасля зімы. Уся ваколіца ажыла, калі пачуўся буслiны клёкат.

Раніцай 19 сакавіка выйшаў я з дому на панадворак і тут брат Кастусь паклікаў мяне да сябе. «Паглядзі, — кажа, — колькі буслоў прыляцела да нас», — і паказаў рукой на лугі над рэчкай Баброўкай. На месцы пакошаных сенажацей налічылі мы 13 чырванадзюбых птушак. Яны шукалі чым бы тут пажывіцца. Буслы ў пошуках спажывы не пабаяліся заглянуць у прыдамашнія агароды і нават на вясковыя панадворкі.

Крыху раней, яшчэ перад прылётам буслоў, завіталі да нас шпакі. Іх вясёлы спеў можна было пачуць веснавой пагодлівай раніцай. Іх столькі, што ў вёсках замала ім домікаў-шпакоўняў. Як памятаю, у часы майго дзяцінства домікі рабіла ім школьная моладзь і бацькі вучняў. Многа было іх на дрэвах у агародах і там, дзе былі сады. Між іншым, у нашай бацькоўскай сядзібе было іх тры (на тоўстай ліпе і вербах) і ў бліжэйшага суседа два (на вялікай бярозе і ліпе). Нам было цікава сачыць за птушкамі. Можа і цяпер дзе так ёсць, што павесілі шпакоўні. Напішыце нам. Цікава, як школьнікі віталі прыход вясны 2020 года. **(яц)**




1 ☞ працяг

белліцэя? Будзе нагода абмяняцца з вучнямі з Пінска вопытам на майстар-класах. Вучні будуць, між іншым, вывучаць метадалогію працы. У нашай школе мае паўстаць адукацыйны прыродна-культурны цэнтр. У ім будуць атрымліваць адукацыю нашы ліцэісты, на занятки будуць маглі прыходзіць вучні пачатковых школ Гайнаўшчыны, — заявіў дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук.

Абедзвюм школам вельмі важнае стварэнне адукацыйных прыродна-культурных цэнтраў у іх памяшканнях. На рэалізацыю праекта прадугледжана каля 67 тысяч еўра, а ў тым ліку 90% гэтай сумы складзе фінансавая дапамога Еўрасаюза ў рамках Праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва «Польшча-Беларусь-Украіна 2014-2020».

— Праект прынясе шмат прыемнага і навуковага для нашай школы і для Піншчыны. Вучням і настаўнікам ёсць цудоўная магчымасць паўдзельнічаць у міжнародным праекце. Вучні пад кіраўніцтвам педагогаў змогуць зрабіць навуковыя даследаванні нашых тэрыторый. Моладзь будзе магла спытацца ў сваіх дзядоў, як яны выкарыстоўвалі мясцовыя расліны для лячэння, варэння страў. Вучні будуць маглі даведацца пра этнаграфічны кантэкст зёлак. Нашы вучні і прадстаўнікі іншых устаноў адукацыі будуць маглі наведваць цэнтры адукацыі ў Пінску і Гайнаўцы і ў іх вучыцца. Праект будзе рэалізавацца як бы ў люстэрку. Тыя самыя дзеянні будуць адбывацца па адным і другім баку мяжы. Будуць таксама сумесныя мерапрыемствы. Мы ўдзельнікаў праекта з рэгіёна Белавежскай пушчы запрашаем у наш цудоўны горад Пінск і спадзяемся, што будуць чарговыя сумесныя праекты — заявіла дырэктар Дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя школа № 3 горада Пінска» Алена Лабачэўская.



■ Дамову падпісалі (злева) Мікалай Лукашук, Алена Лабачэўская, Вольга Леўчанка, Андрэй Скепка, Іаанна Койла, Ігар Лукашук і Аляксандр Болбат

Важнасць праекта адзначыла таксама дырэктар Упраўлення па адукацыі Пінскага гарвыканкама Вольга Леўчанка. Старшыня Мясцовага экалагічнага фонду «Заказнікі Брэсцкай вобласці» Мікалай Лукашук звярнуў увагу на цікавую формулу трансгранічнага праекта і выказаў задавальненне фактам, што ён у вялікай ступені фінансуецца еўрасаюзнымі сродкамі.

— Гайнаўскае старасва будзе дапамагаць, між іншым, у арганізацыйных справах падчас рэалізацыі праекта «Прыродная скарбніца без межаў». Прадбачваем адкрыць у Белавежскай пушчы аб'ект «Звярынец», які будзе можна таксама выкарыстаць, ладзячы ў ім заняткі вучням Гайнаўшчыны і Піншчыны, — заявіў гайнаўскі староста Андрэй Скепка, які разам з намеснікам старасты Гайнаўскага павета Іаннай Койла падпісалі дамову.

— У рамках праекта будуць праводзіцца майстар-класы і абучэнні настаўнікаў і вучняў, каб пазней па абодвух баках мяжы маглі яны быць лідарамі, якія будуць адукаваць іншых, — сказаў намеснік дырэктара Белавежскага нацыянальнага парку Аляксандр Болбат. Праект прадбачвае арганізацыю адукацыйных мерапрыемстваў па абодвух баках мяжы, накіраваных да мясцовых жыхароў розных узростаў і да трансгранічнага лагера для моладзі. Прадугледжваецца адшукванне раслінных матываў на тканых і вышываных уручную ў мінулым матэрыялах і апісванне іх. Прадбачваецца таксама спісванне расказаў аб раслінах, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Як ўпрыгожвалі хаты

У вёсках Гайнаўшчыны ёсць шмат драўляных дамоў і сельскагаспадарчых будынкаў. Амаль усе яны паходзяць з ХХ стагоддзя, найбольш з даваеннага перыяду ды з першых дзесяцігоддзяў пасля Другой сусветнай вайны, а толькі нешматлікія датуюцца ХІХ стагоддзем. Такая вясковая структура будынкаў сфарміравалася ў выніку знішчэнняў пасля абедзвюх сусветных войнаў. Шмат старой пабудовы было разбурана ў 1914-1918 гадах. Апусцелыя вёскі, жыхароў якіх выселілі ў глыб Расіі, былі шматразова рабаваныя і паленыя. Калі бежанцы вярнуліся ў свае вёскі, яны былі вымушаны адбудоўваць зруйнаваныя будынкі.

Сяляне Гайнаўшчыны мелі ўдоваль высакаякаснай драўніны з навакольных лясоў і таму будавалі вялікія хаты. Яны іх таксама ўпрыгожвалі. Запаўнялі большыя плошчы сцен і шчытоў арнаментаванымі ўпрыгожаннямі. На шчытах прыбівалі шалёўку ў форме елачак, кубікаў ды зубчатых ліштваў-планак. Часта дошчачкі на шчытах укладалі пад рознымі вугламі. Сустракаем таксама аздобы шчыта выразаныя ў форме трохвугольніка або двух трохвугольнікаў у зубочкі па краях. У шчыце змяшчалі адно, два, тры а часамі і чатыры невялічкія аконцы з багатай арнаментыкай. У найстарэйшых будынках з ХІХ стагоддзя крыжуючыся дошкі па краях даху мелі зверху выразкі ў форме птушыных або конскіх галоў. Гэтая аздоба мела магічнае значэнне — мела адпуджваць злыя духі. Вяскоўцы забяспечвалі вуглы хат ад гніцця гладкімі дошкамі, а сцены — прыгожай шалёўкай.

Упрыгажэнне вокнаў складалі надаконнікі, падаконнікі ды аканіцы. У надаконніках найчасцей можна сустрэць раслінныя матывы — гнуткія галінкі з лісточкамі, пераплеценыя з геаметрычнымі матывамі, аваламі, зубочкамі і круглымі або нерэгулярнымі адтулінамі-дзіркамі. Рэдка паяўляюцца зааморфныя матывы, а ўжо калі так, то найчасцей былі гэта птушкі. Шалёўку прыбівалі вакол трох бакоў акна, а знізу прымацоўвалі падаконнік, па якім сцякала з акна вада.



Фота Аляксандра Вярбіцкага

У ніжняй частцы мае ён найчасцей разьбу ў выглядзе карнізаў, кубікаў або дадатковай вузкай ліштвы. Ліштва пад акном складае найчасцей выключна прыгожую кампазіцыю разьбы па дрэве. Выступаюць тут элементы раслін, птушкі ды элементы арнаментаў. Дэкаратыўным дапаўненнем з'яўляюцца двухстворкавыя, філянговыя аканіцы.

У аздабленні вуглоў дамінавалі геаметрычныя фігуры. Прыбівалі прамавугольныя або рамбаідальныя дошчачкі, часта двух- або нават трохпластовыя. На вятроўках найчасцей выступае матыў сэрца або трохвугольніка, або яшчэ і прамавугольных зубкоў. Дамінуючай прыкметнай рысай усіх матываў упрыгожанняў ёсць іх суровая сіметрыя. Вынікала яна з тэхнікі выконвання ўсіх карунак.

Ганак — таксама дэкаратыўная частка хаты. Архітэктурная разьба выступае каля калонак на падстрэшніку, шчыце і вятроўках. Гэтыя дэкаратыўныя элементы з'яўляюцца працягам агульнага ўпрыгожання хаты з такімі ж арнаментамі, ліштвамі і шалёўкамі.

Традыцыйнае архітэктурнае ўпрыгожванне захавалася, між іншым, у Вітаве, Войнаўцы, Вярстоку, Грабаўцы, Старым Корніне (Дубіцкая гміна), Чыжыках і Трывежы (Гайнаўская гміна), у Трасцянцы (Нарваўская гміна) ды ў Чыжах (Чыжоўская гміна). **(яц)**

# Хто вінаваты ў заразе? (1)

**...Вясной 1348 года эпідэмія Чорнай смерці ўдарыла другі раз з большай сілай, збіраючы смяртэльнае жніво ўздоўж шляхоў спалучаючых гарады, займаючы Еўропу і Блізкі Усход. Людзі каналі ў пакутах, ад Грэнландыі і Скандынавіі па Сірыю і ад узбярэжжа Атлантыкі да Масквы. Мор ашчадзіў толькі Польшчу і Вялікае Княства Літоўскае...**



Эпідэмія каранавіруса цякучая з Кітая нагадвае пра заразу, якая выйшла адтуль, сем вякоў таму ды забіла кожнага чацвёртага жыхара Зямлі.

Абаронцы XVI-вечнай Кафы (генуанская калонія) трымаліся моцна. Чарговыя атакі татар разбіваліся аб муры іхняй цвердзі. Мелі добрыя фартыфікацыі, волю да змагання і запасы харчоў. А наезнікаў турбавала страшная хвароба, якую прывалаклі з далёкага Кітая. Пад канец 1347 года татары адмовіліся ад аблогі. Аднак адыходзячы, пазбіралі цэлы сваіх памерлых таварышаў і катапультамі выкінулі за муры абаронцаў — на вуліцы Кафы. Трупы хутка былі прыбраны, але радасць ад перамогі перайшла ў хвалю захворванняў чумой. Людзі падалі як мухі. Адны кашлялі крывавымі пляўкамі, а праз два дні задушваліся, іншых праз дзень забіваў сепсіс — заражэнне крыві. Большасць мучылася ад пяці да сямі дзён. На іх целах паяўляліся чорныя плямы, а лімфатычныя вузлы ў пахвінах і пад пахамі замяняліся ў набрынялыя, сінія пухіры, з якіх цяклі кроў і гной. Не было чаго чакаць. Апошнія з абаронцаў селі на 12 галер і павеславалі з канаючага горада на радзіму — у Генуэю. Ніколі туды не дабраліся. Караблі поўныя трупаў дапылылі да Месіны, на Сіцылію, дзе ледзь жывыя недабіткі асцераглі жыхароў аб надыходзячай заразе, якую самі прывалаклі. І так пачалося. На працягу двух месяцаў чума, званая тады чорнай смерцю, распаўзлася на Паўночную Італію, паўднёвую Францыю і каралеўства Арагоніі на Іберыйскім паўвостраве. Найбольш пацярпелі перапоўненыя сярэднявечныя гарады. Там грабары не паспявалі хаваць нябожчыкаў, як у Авіньёне, укідвалі іх у рэкі. Зімой стала крыху лепш, здавалася, чума адыходзіць.

Чаму вясной 1348 года чума ашчадзіла Польшчу і ВКЛ, сучасныя даследчыкі не могуць адназначна растлумачыць. Маштаб чумы быў проста аграмадны. У Лондане памерлі кожны другі жыхар, у Венецыі — 80-90 тысяч, што склала каля 60% насельніцтва. У Дамаску памерла палова жыхароў. Да 1352 года, калі ўрэшце зараза згасла, у Еўропе памерла каля 30 мільёнаў людзей, што было трацінай усяго насельніцтва кантынента. А ва ўсім свеце (галоўным чынам у Кітаі, Індыі і паўночнай Афрыцы) — аж 150 мільёнаў з 450 мільёнаў жыхароў усёй Зямлі.

**УСЯМУ ВІНОЎНІКІ — ЯЎРЭІ?**

Адкуль узялася ўся бяда? Тагачасныя людзі не ведалі пра існаванне бактэрыі *Yersinia pestis* (палачка чумы), ані аб бактэрыях увогуле. Гігіену лічылі шкоднай і непатрэбнай мітрэнгай. А тое, што заразу пераносяць блохі, жыруючыя на пацуках — гэта пераходзіла іхняе паняцце. Заўважылі, што чорная смерць пераносіцца быццам бы ў паветры. Таму тагачасныя лекары надзявалі маскі, прыгадваючыя дзюбы птушак. А адкуль тое «папсаванае паветра» ўзялося? З такім пытаннем звярнуўся кароль Францыі Філіп VI да медыкаў Парыжскага ўніверсітэта. Хутка адказалі: заразнае паветра бярэцца з... кан'юнкцыі Марса, Юпітара і Сатурна з 1345 года. Арыстакратам і акадэмікам было гэта зразумелым, але просты люд палічыў заразу за боскую адплату за грахі. З горада ў горад пачалі перамяшчацца бічаўнікі, хвастаючыся па сваіх целах скуранымі бічамі. Пакаянне і пост аднак нічога не давалі — мёрлі і тыя, хто лайдачыўся на ўсю катушку, піў і жэр, як і пакутнікі, і сястрыцы-манашкі, якія апекаваліся хворымі. У пакутах каналі нават высокапастаўленыя людзі — жонка і дачка караля Арагоніі, французская каралева Жанна ці дачка караля Эуарда III. Страх ахапіў нават папу Клеменса VI, якому медыкі загадалі сядзець у пакоі пасярод двух распаленых кастроў (блохі падохлі). Паколькі зараза не аказалася быць бічом на грэшнікаў, пачалі шукаць віноўнікаў. І знайшлі. Эпоха спальвання ведзьмаў мела прыйсці праз два-тры стагоддзі, і роля казлоў адпушчэння выпала на яўрэяў. Асабліва таму, што паміралі іх быццам бы менш, чым хрысціян. Хутка абвінавацілі іх у кіданні праклёнаў, чорнай магіі і атручванні калодзежаў. І на Захадзе пачаліся вялікія пагромы. Закатоўвалі цэлыя яўрэйскія гміны, налічваючыя па некалькі тысяч членаў, якіх нярэдка кідалі жывымі ў «ачышчальны агонь». Нічога дзіўнага, што тыя загнаныя людзі шукалі схову ў Польшчы і ВКЛ. Там панавала, апрача талерантнасці, проста чысціня.



Сёння ведаем аб тадышняй заразе ўсё. З касцей і зубной пульпы ахвяр даследчыкі вылучылі палачкі *Yersinia pestis* і са здзіўленнем адкрылі, што нічым яны не адрозніваюцца ад бактэрый, якія дагэтуль знаходзяцца ў некаторых рэгіёнах Кітая, асабліва на вялікіх кітайскіх мясных рынках. Сёння не даходзіць да вялікіх эпідэмій чумы, паколькі чалавецтва адкрыла антыбіётыкі. Страх падумаць, што будзе, калі палачка чумы на іх здабудзе ўстойлівасць!

**ВІРУС АТАКУЕ Ў ГРАЗІ**

Лякарства на вірусы яшчэ не ўдалося знайсці. А гэта яны адказныя за пандэміі, якія ўдарылі ў свет: XVI-вечную заразу сапраўднай воспы, якая ў сённяшняй Мексіцы забіла 25 мільёнаў ацтэкаў (75% насельніцтва) і грып «іспанку», якая ў 1918-1919 гадах выбіла 100 мільёнаў людзей на свеце (у Еўропе — 30 мільёнаў). Як пойдзе лёс эпідэміі, якая выйшла з кітайскага Юхань? Час пакажа. Пакуль можна паказаць супольны генезіс гэтых хвароб. Узяліся яны ад бруду, тлумнасці і нядбайнасці пры ізаляванні хворых. Гэтым былі вядомыя сярэдневяковыя і рэнесансныя гарады. Сцёкі плылі рыштокамі проста ў рэчкі, гурбы смецця населеныя пацукамі раслі адразу пад вокнамі камяніц шаноўных мяшчан, а чыстая вада была далікатэсам даражэйшым ад віна. Таму нічога ў тым дзіўнага, што чума вярталася ў Еўропу да XVIII ст. яшчэ некалькі разоў, хаця не такая страшная, а жыхароў кантынента знішчалі іншыя хваробы: воспа, тыф, халера, сухоты, праказа. А пасля пераможнай канкісты яшчэ горшы ад свойскай ганарэі — сіфіліс. Таксама «іспанка» нарадзілася і ўзрастала ў лагерах і акопах І сусветнай вайны. Гэтае страшнае пандэмоніюм кончылася з адкрыццямі Коха, Пастэра, Флорэла і Хаіна. Але ці гэта канец пандэміі? Штораз больш населеныя гарады як Юхань (11 мільёнаў) вырабляюць штораз больш адкідаў, смог заражае паветра, сцёкі гнояць рэкі. На кітайскіх рынках поўна жывых і паўмёртвых катоў, сабак, вужоў, яшчараў. Наш сучасны свет штораз больш падобны да сярэднявечнага хаосу, які так любяць бактэрыі і вірусы. І апаноўвае нас паніка...

*(працяг будзе)*

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адпомсціла!

Падзеі, пра якія хачу распавесці, бяруць пачатак у XIX стагоддзі.

У адной з вёсак, паблізу Чаромхі, жыла маладая сям'я: муж, жонка, двое дзетак — хлопчык і дзяўчынка.

У тыя далёкія часы мужчыны ездзілі на заробкі ў Варшаву, пакідаючы гаспадарку на бацькоў і жонак.

Хтосьці, знайшоўшы добрую работу ў сталіцы, забіраў сямейнікаў з вёскі, іншыя вярталіся дадому з грашыма і працягвалі гаспадарыць на ўласных палетках.

А з героем майго аповеду адбылася гісторыя, якая падзяліла яго жыццё на «да» і «пасля».

Спачатку ўсё ішло як мае быць: працаваў, зарабляў, час ад часу адпраўляў грошы жонцы, а на святы — на Раждаство і Вялікдзень — прыязджаў з гасцінцамі на пабыўку ў вёску.

Напярэдадні Новага года жонка атрымала ліст з Варшавы, каб у азначаны дзень і час сустракала суджанага ў Чаромсе, бо той вяртаецца дадому, каб асесці на гаспадарцы.

Малады конік хутка даімчаў жанчыну да станцыі.

Сярод пасажыраў яна разгледзела мужа, у руках якога быў незвычайны пакунак. «Дзіця!» — страшная здагадка апякла сэрца.

Так, гэта быў ягоны сын, народжаны варшавянкай.

Ішлі гады. Жанчына, гадуючы дзяцей, ніколі не прыгарнула Олеся, не дачакаўся ён ад яе ні ласкавага слова, ні любові, бо заўсёды паміж імі стаяла постаць яго маці. А муж? З мужам працягвала жыць, як з братам, — праз сцяну.

І толькі аднойчы, вярнуўшыся з гасціны, дала «слабіну». Вынік той ночы — цяжарнасць, пазбавіцца ад якой не ўдалося.

Нарадзіўся хлопчык — будучы бацька маёй сяброўкі. Нежаданым і нелюбімым сынок быў да тае пары, пакуль цыганка не папярэдзіла: «Не мары голадам дзіцяці, табе пры ім давядзецца на схіле гадоў дажываць свой век».

Словы гэтыя сталі прарочымі: пахаваўшы мужа, яна на працягу 30 гадоў жыла з сям'ёй малодшага сына ў прыпушчанскай вёсцы.

Адыходзячы, узяла з сямейнікаў слова пахаваць яе ў процілеглым ад мужавай магілы месцы.

Такая вось помста.

**Тамара ЛАЎРАНЧУК**

## Дзевяцьдзесят пяць Віктару Шведу

**Барыс РУСКО**

Дзевяцьдзесят пяць
Віктару Шведу

Думка паэта распальвае
пламень трывання.

Прыказвае стаць на калені
перад памяццю Бацькоў.

Нясці слова
ў заўтрашні дзень
стаяць
і сцерагчы святасці.

Паэзія светланосным
дарам.

Паэт песняром.

*Пераклад Віктара Шведа*



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка
для дзяцей і моладзі

## Месца, у якім трэба быць кожнаму беларусу

Былі ўжо ў Мінску, Гародні, былі ў Берасці, але... не былі ў Гайнаўцы! Калі пазнаваць беларушчыну, варта таксама наведаць і гэтае месца. Вось таму сёмы клас пачатковай школы ў Залуках вырашыў выбрацца ў Гайнаўку, якая вядомая не толькі Белавежскай пушчай, але таксама беларускімі дзеячамі, гісторыяй, арганізацыямі і мерапрыемствамі.

Наша двухдзённае падарожжа вісела на валаску з-за прастуды, якая часта здараецца ў гэтую пару года. Амаль палавіна сёмага класа была хворая. Аднак на дзень перад экскурсіяй большая частка шчасліва аздаравела і мы выбраліся ў самы беларускі горад Падляшша. Беларускі таму, што менавіта тут знаходзіцца адно з найважнейшых месцаў беларусаў Польшчы —Агульнаадукацыйны ліцэй з дадатковым навучаннем беларускай мовы. Таксама цікава, што і падручнікі для навучэнцаў пішуцца пераважна тут, у Гайнаўцы. Тут таксама адбываюцца цікавыя беларускія мерапрыемствы, як „Беларуская гавэнда” ці прадметны конкурс па беларускай мове. Той ліцэй завяршылі многія, якія і зараз ствараюць беларускае жыццё ў Польшчы.



— У Гайнаўцы цэркваў больш, чым касцёлаў, — сказаў Мішка ў час шпацыру па горадзе.

Сапраўды цэрквы робяць уражанне, асабліва цікавая пабудова тутэйшага праваслаўнага сабора Святой Тройцы, які мы таксама наведалі. Пагулялі мы па цэнтры горада, а таксама палічылі ўсіх сустрэтых зуброў. Надвор’е не дазволіла нам на даўжэйшы шпацыр, таму вырашылі нагрэцца ў цёплай вадзе мясцовага басейна.

Здаецца, што найбольш пра менталітэт і жыццё мясцовых можна даведацца з кніжак Міхася Андрасюка — мясцовага пісьменніка, які вядомы не толькі ў Польшчы, але і на свеце. Нам пашанцавала пабываць на сустрэчы ў Цэнтры „Чарлёнка”. Тут мы маглі сустрэцца з чарговымі выдатнымі асобамі Гайнаўскай зямлі — Мікалаем Бушко, гаспадаром цэнтра, а таксама арганізатарам вядомага ва ўсім свеце Фестывалю праваслаўнай музыкі, ці Віктарам Кабацам — вядомым мастаком, які таксама з’яўляецца вялікім энтузіястам і ахоўнікам Белавежскай пушчы.



Сустрэча была цікавая і доўгая, але сямікласнікі хаця прывыклыя да саракапяціхвілінных заняткаў, вельмі ўважліва ўслухоўваліся ў расповеды Міхася Андрасюка. Настолькі было відаць іхнюю цікавасць, што пасля сустрэчы за свае спелыя паводзіны атрымалі пахвалу ад адной з удзельніц.

Хаця вучні яшчэ не чыталі ніводнай кніжкі Андрасюка, пасля сустрэчы ўжо ведалі, што прачытаюць. Самага аўтара пачалі ўспрымаць як сапраўдную зорку — усе атрымалі аўтограф Андрасюка, а некаторым нават удалося зрабіць сэлфі з героем вечарыны.

Апошняй кропкай экскурсіі па Гайнаўцы быў Беларускі музей. Агнешка Ціханюк распавяла пра пачаткі музея і яго дзейнасць. Дзякуючы яе расповедам Гайнаўка здалася быць бліжэйшай і больш зразумелай, а нават падобнай на родныя Залукі. „Было супер”, — так падвяла двухдзённую экскурсію Патрыцыя. Калі ўжо адыдуць усе вірусы і вернецеся ў школу, падумайце пра экскурсію ў гэты прыемны горад. Можа і вам пашанцуе настолькі, што пазнаёміцеся з такімі выдатнымі людзьмі.

Тэкст і фота **Улі ШУБЗДЫ**

# Як нашы продкі заразу выганялі

## (беларуская народная легенда)

Гэта было ў часы, калі шведы пляжылі вёскі і палілі двары. Жыццё мала што важыла, людзі хаваліся па лясах, па балотах. Але не войска і гарматы былі найстрашнейшыя! Найгорш, калі з вайной прыходзіла пошасць, ад якой не ўцячы, не адбіцца...

І вось пайшла па аколіцы чутка, што пошасць з’явілася на зямлі і збірае багаты плён. Дзе не з’явіцца, людзі як мухі мруць. А гэта было якраз лета, на двары гарачыня стаяла. Сабраліся хлопцы рыбу вудзіць і заначавалі ля рэчкі на грудку. Вось сядзяць яны каля вогнішча і апякаюць рыбу на агні. Ноч ціхая, толькі рыба пляскае ў вадзе. І месяц узышоў, стала відно, хоць ты іголкі збірай. Бачаць яны — а за ракой дзве страшныя постаці. Косы ў іх расплецены, твар цёмны бы зямля, толькі вочы блішчаць. Падышлі яны да ракі і просяць хлопцаў, каб яны перавезлі іх на другі бераг.

— Золатам вас абсыплем, толькі перавядзіце нас на сухі груд!

Здагадаліся рыбалоўцы, што гэта не чужаземцы-шведы, а пошасць на людзей і паморак на жывёлу ідзе. Спалохаліся яны і давай кідаць галавешкамі ў незнаёмых. Хацелі тыя з’явы перш па кладцы перайсці цераз рэчку, але як убачылі агонь, спалохаліся. Адступіліся назад, замяліся на месцы.

Пачулі ў грамадзе, што за ракой пошасць стаіць, гатова ўжо ламаць і касіць жыццё. І давай яны з усіх канцоў свой груд вогнішчамі абкладаць, каб не падпусціць блізка заразы. Вось так адратавалі жыццё сваё і жыццё жывёл ад пагані. Многа тады памерла людзей у наваколлі, многа прапала жывіны. Дзе-нідзе цалкам вымерлі вёскі ды не было каму хаваць няшчасных. Ды толькі з надыходам зімы пошасць утаймавалася.

Вось з тае пары людзі пачалі класці агонь і рабіць куродым вакол вёсак, калі толькі пачулі чуткі пра заразу.

**(гак)**

# УВАГА КОНКУРС! № 13-20

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 5 красавіка 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Два родныя браты цераз дарогу жывуць, а адзін другога ніколі не бачыць.**

В...

**Адказ на загадку № 9-2020: лыжка. Ўзнагароды, кашулькі з лагатыпам Сустрэч «Зоркі», выйгралі Тамаш Ваўранюк і Оля Кардаш з Нарвы. Віншуем!**




# Міфы
## старажытных беларусаў

КАМЕНЬ – у старажытныя часы амаль кожны камень вялікіх памераў ці незвычайнай формы, служыў культавым абрадам. Людзі прыносілі яму ахвяраванні ў выглядзе ежы ці каштоўных прадметаў. На тэрыторыі Беларусі знойдзена больш за 300 культавых камянёў. Гэта камяні-абярэгі, гойбіты ці следавікі, у якіх адбіты ступні Божай Маці або святых. Яны, верылі нашы продкі, дапамагаюць ад хвароб і немачы, ахоўваюць ад зла, дапамагаюць вырашыць карысна справу. Іншае значэнне мелі камяні-скарбнікі, пад якімі хаваліся заклятыя скарбы, золата. Характэрнымі для Беларусі лічацца камяні-краўцы і камяні-шаўцы, якія шылі для людзей адзенне і абутак. Спачатку трэба было прынесці яду або невялікія грошы і пакінуць іх валуну. Як не цікава, камень не заўсёды выконваў жаданне людзей; ён служыў толькі пачэсным і добрым людзям, хоць і ад гэтага былі адхіленні. Ды рэчы, якія ён вырабляў за адну ноч, былі настолькі трывалымі, што іх насілі цэлае жыццё...

Старажытныя беларусы назіралі за памерам камянёў. Яны верылі, што камень здольны расці і гэта таксама была прыкмета яго святасці. Ёсць такая легенда, што ў часы, калі Бог хадзіў па зямлі, камяні вырасталі памерамі ў хату, але пасля таго як Усявышні балюча ўдарыў нагой аб адзін з іх, то пракляў усе камяні і яны з таго часу перасталі расці...

Камень важны ў народных лячэбных замовах. Да яго адсылалі немач і чакалі адтуль дапамогі. «На сінім моры-акіяне стаіць дуб, пад тым дубам ляжыць Латыр-камень, пад тым каменем ляжыць чорная руна, а ў той руне жыве змяя Скурапея...».

Калі дзіця доўга не магло навучыцца хадзіць, яго вадзілі па камянях-гладышах з перасохлых ручаёў, каб тулава зацвярдзела як камень.

Людзі верылі, што калі кінуць камень з першай баразны ў фартух дзеўцы, то яна зацяжарыць. Калі ў сне з'яўляўся камень, гэта значыла цяжкасці і складанасці ў жыцці.

*(Адрэзак паводле «Міфалогіі для дзяцей» Алесі Коршак)*

**(гак)**

# Польска-беларуская крыжаванка № 13-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 9-2020:**

Дух, вакал, два, дзеяслоў, дзірка, дзева, шалі, лік, як, праца. Удод, для, дзік, дзед, дзіва, вера, сваяк, Сашка, кол, плоў.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Вікторыя Кандрат, Майка Куптэль** з Нараўкі, **Віка Якімюк, Юля Дарпенская** з Нарвы, **Міша Астравецкі, Дагмара Краўчук, Эрыка Клімовіч** з Міхалова. Віншуем!





# Допыты на пяцёрку

Вера МАСАЙЛА, *Гайнаўка*




В. — Валянціна (маці, удава)

С. — Сцяпан (сваяк Сяргея, кум Валянціны)

П. — Параска (старэйшая жанчына, суседка Валянціны)

К. — Клаўдзія (дачка)

М. — Музыкант, іграючы ў перапынках, як акажацца, Валодзя

I

*Раніца. Валянціна ідзе з вядром, даіць кароў. Нечакана сустракае кума.*

В.: — Сцёпа, куме, а ты куды так з самай раніцы кароў на луг не выгнаўшы?

С.: — Я да цябе, галубка. Не знаю, ад чаго пачаць гаварыць.

В.: — Да мяне? А што твая Настуся скажа; вочы табе выдзярэ — да ўдавіцы, жанаты, ідзеш!

С.: — Не выдзярэ! Гэта яна прыдумала такі план, каб ажаніць ее брата ўдаўца з табою — жанчынай паважанай у цэлай ваколіцы. Узоры тваіх плахтаў у пераборы прыгажэйшыя чым прафесійных артыстаў!

В.: — Не саладзі! Бачу, з цябе прафесійны райко! А што людзі скажуць? Яшчэ года няма ад смерці майго мужа Толіка. Скажуць, што ногі мужу яшчэ не астылі, а ёй ужо замуж захацелася.

С.: — Пагавораць і перастануць. Ніхто цябе сілаю ў царкву ўзяць шлюб не зацягне.

В. *(стукае сабе ў лоб)*

С.: — На маю думку ты папрасі парады ў цёткі Параскі — яна ж пажылая, разумная жанчына з вопытам...

В.: — Як зараз замахнуся і дам табе гэтым вядром па спіне.

С.: — Не балбачы! Схаваймася за хлеў, бо аднавяскоўцы сапраўды будуць языкамі малоць!

II

*Валянціна ідзе пад вечар даіць кароў. Па дарозе заходзіць да цёткі Параскі.*

В.: — Добры дзень, цётка Параска! Даражэнькая. Мо вы дапаможаце мне развязаць маю праблему?

П.: — Якая ў цябе праблема, у якой магу табе дапамагчы? Араць і сеяць я не ў сілах, а табе, прыгажуня, такая дапамога патрэбная!

В.: — Дзякую за камплімент. Добра вы, цётка, мяркуеце. Хачу, каб вы разлажылі калоду карт і ўбачылі маю будучыню — ці ёсць там месца для Сяргея са Спічкоў.

П.: — Даўно я карт не клала, хацела зусім закінуць варажбу, ды і бацюшкі на гэта крыўляюцца — грэхам называюць. Ну, для цябе апошні раз спрабую... і так мела ісці ў нядзельку паспавядацца.

В.: — Вельмі вам дзякую! Заплачу некалькі разоў за вашу споведзь і дам вам на свечку.

П.: — Перастань! Нічога ад цябе не вазьму! Пакажы правую руку — у цябе доўгая і вельмі пакручастая дарога жыцця. Можа і знайшлося б на ёй месца для яшчэ аднаго мужыка. Сядай!

Пералажы карты. Я бачу тут не аднаго, а двух мужчын — старэйшага прыстойнага, пекнага беларуса і другога, зусім маладзенькага, пэўна, яго сына... Можа быць тваім зяцем... Толькі лёсу трэба часам дапамагчы...

В.: — Ды як? Мая Клаўдзія аглядаецца за гарадскімі хуліганамі з доўгімі валасамі і папяроскай у зубах. Сын Сяргея, Валодзя, нядаўна з войска вярнуўся, а Клаўдзіі толькі пятнаццаць гадоў.

П.: — Пятнаццаць з палавінай, а гэта вялікая розніца. Не перажывай. Усё іншае прыдумаем. Замоўлю табе ваду і хлеб для Клаўдзіі і трэба будзе працягнуць праз хамут і драбіну. А Сяргею і яго сыну Валодзю няхай перадасць скаштаваць замоўленыя мною піражкі.

В.: — Дзякую, цётка Параска, будзем прабаваць шчасцю дапамагчы. Перад захадам сонца да вас прыбягу, а цяпер іду падаіць кароў.

III

*Валянціна дзякуе Сцяпану за перададзеныя Сяргею піражкі (сапраўды не перададзеныя)*

С.: — Атрымаў я ад цёткі Параскі замоўленыя піражкі для жаніхоў — Сяргея і яго сына Валодзі, ды пашкадаваў іх аддаць і сам іх аплёў, аж вушы трэсліся. Дзякую Богу, да дзяўчат нічога мне не схацелася. Валянціна і яе дачка Клаўдзія не завярнулі мне ў галаве... Не мінуў тыдзень, а Валянціна прыбягае да мяне з падарункамі.

В.: — Сцёпачка! Кумочку! Не знаю як табе і падзякаваць за перададзеныя піражкі. Вазьмі хоць свежанькай каўбаскі, місачку цёпленькіх блінчыкаў.

С.: — А што, памагло?

В.: — Памагло, і то як!.. Сяргей без мяне жыць не можа. Ужо пяць разоў наведаў маю хату! А то каня напоіць, а то сам хоча напіцца вады, а то памяняць пшаніцу на насенне... Кажа, што як жаніцца, то толькі са мною. Горш з дачкой Клаўдзіяй. Яна начыталася дурных кніжак і чакае вялікага кахання і каралевіча з казак. Сцёпа, паможаш мне яе «адтуманіць»?!

С.: — Для цябе, кумо — усё! Не такія рэчы ў жыцці ўдаваліся. Збаламуцім Клаўдзію!

IV

*«Баламучанне Клаўдзіі»*

С.: — Добры вечар, дзяўчаткі! Чуў я, Клаўдзія, што твая сяброўка Ніна мае лапкі на прыгажуна Валодзю са Спічкоў. Ён нядаўна з войска прыйшоў і хоча жаніцца. Не хацела б ты быць на яе месцы? Кожная дзяўчына хацела б!

К.: — Я не знаю...

С.: — Ужо лепш. Усё ў тваіх руках. Дазволь мне на штосьці, а ён, як захочаш, будзе тваім каралевічам.

К.: — Ну, то дазваляю.

С.: — Дазволь перацягнуць цябе цераз Валодзеў хамут, а потым цераз драбіну. Тады ніякія ведзьмы не будуць у сілах вас раздзяліць.

К.: — А адкуль у вас Валодзевы рэчы?

С.: — Не пытайся, толькі лезь!

*Сцёпа памагае Клаўдзіі пералезці тры разы цераз Валодзеў хамут і драбіну. Валянціна (каб дачка не бачыла) кропіць Клаўдзію замоўленай вадой і тры разы цягае па дачцэ «завінёнткам».*

К.: — Дзякую, дзядзька Сцяпан! Я ўжо хачу ісці замуж за Валодзю. Будзе цудоўна. Старшы сват запражэ кабылу і мы з дружкай прыбраным возам, седзячы на плахце ў пераборы, паедзем у чужыя вёскі прасіць сваякоў на вяселле. Потым таксама ў адзінакавых хустках пойдзем са старэйшымі дружкамі да споведзі. У царкве будуць чытацца нашы запаведзі... Усе будуць пра нас гаварыць. А на канец надзену белы вэлюм і буду маладой. Ці ж гэта не цудоўна?

С.: — Яшчэ як! А твая свякруха будзе тваёй мамай. Лепшай свякрухі нідзе не знойдзеш! А я буду тваім сваяком і маршалкам на вяселлі, а пакуль то ў суботу прыедзем з Валодзем і яго бацькам да вас у сваты. Дагаварыліся?

К. і В.: — Дагаварыліся.

V

*Клаўдзія размаўляе з цёткай Параскай.*

К.: — Я яшчэ раз да вас, цётка Параска. Я сумняваюся. Цэлую ноч не спала. А што, як мне з Валодзем у жыцці не выйдзе — тады і мама будзе са Сцяпанам нешчаслівая.

П.: — А чаму не выйдзе? Пабачыш, усім гэтыя шлюбы выйдуць на здароўе. Жыццё бяжыць хуценька, шкада часу раздумваць сумнае прошлае, якое немагчыма памяняць. Перад шлюбам пастаўце свечкі на магілах вашых блізкіх — Валодзя па маці, а ты па бацьку. Яны там, у лепшым свеце, таксама будуць цешыцца вашым шчасцем.

К.: — А пачуцці? Я ніколі з Валодзем яшчэ сама не спаткалася. Што з нашымі пачуццямі?

П.: — На ўсё прыйдзе пара. Як будзе блаславенне маці і святара і будзеце шанаваць адзін аднаго, то і вялікае каханне з часам прыйдзе. Жадаю вам з цэлай душы і сэрца!

К.: — Я на ўсё згодна, ды цяпер скажыце праўду: ці гэта не ваш з дзядзькам Сцёпам супольны план, каб пажаніць Валодзю і яго бацьку са мной і маёй мамай?

П.: — А каб ты скісла, дзіцятка, якая ты дагадлівая.

К.: — Ну, але скажыце праўду! Быў план?

П.: — План ці без плана. Якое ж цяпер мае значэнне. Занадта будзеш ведаць — хутка старой станеш, а... *(уваходзіць Сцяпан)* А мы са Сцяпанам жадаем, каб вы не старэлі і каб як у гэтай песні: «Каб век маладыя што князь і княгіня купаліся ў моры багацця» *(спеў два разы)*.

**Заканчэнне**

*Музыкант падыходзіць да спяваючых артыстаў, у тым ліку Клаўдзіі.*

Музыкант: — Файна было цябе пазнаць, Клаўдзія, і на цябе паглядзець. Пазнаёмімся *(падае Клаўдзіі руку і цалуе яе)*. Я — Валодзя. То я да цябе прыеду ў сваты. Калі захочаш, буду цябе насіць на руках.

*(Маці хапаецца за галаву, аслупянелую Клаўдзію Валодзя бярэ на рукі і ўсе артысты кланяюцца публіцы — з Клаўдзіяй на руках у Валодзі.)*

Ірэна ЛУКША, *Гайнаўка*

# Краявід з акна

Каля майго шматпавярховага высотнага дома ў гарадку растуць туі і абляпіхі. Далей — папар і шаша, за шашой — іззноў папар.

Вясной маленькімі лісточкамі пакрываецца абляпіха і зелянее трава. На папары за шашой пачынаюць расці пустазелле і лекавыя зёлкі. Вырастаюць таксама самасейкі — бярозы, дубы і хваіна.

Абляпіха цвіце малымі, ледзь прыкметнымі кветачкамі. Пасля яе галіны асыпаюцца безлічу зялёных ягадак, якія растуць і спеюць. Спелыя ягады памяранцавага колеру. Вельмі прыгожа выглядаюць кусты абляпіхі са спелымі ягадамі.

Пад канец вясны, цэлае лета і восенню ажно да першых прымаразкаў папар за дарогай жаўцее. Там цвітуць залатарнік лячэбны і залатарнік амерыканскі — залатая розга. Ён заглушае ўсю раслінnасць. Яго штораз больш і больш. Лячэбнага залатарніку ўсё менш, і мала там ужо піжмы-гліснiку.

Па спелыя ягады абляпіхі прыходзяць людзі. Яе ягады памагаюць на павышаны крывяны ціск.

Ад позняй восені і ўсю зіму ягады ядуць сойкі. Прылятае на наш папар іх вельмі многа. Недаедзеныя ягады ўтрымліваюцца на кустах да вясны.

На галінках абляпіхі часта сядаюць сініцы і снегіры, якія прадвяшчаюць вялікі мароз. Я часам вешаю на галінках кавалачкі саланіны — у халодныя дні мноства сініц прылятае паласавацца. А як чуйна яны ядуць: схопіць штосць у дзюбак і глядзіць, ці вораг не набліжаецца! Да абляпіх прылятаюць і вераб'і...

Позняй восенню і зімой на папары за дарогай толькі хвойкі зеляннеюць. Відаць голыя галіны дрэў і чорна-бронзавы колер быльнягу і зёлак.

Не раз на папар прыбягаюць сарны. Прыбягуць, паглядзяць на дарогу і зноў бягуць назад. Вечарам ліс прыбягае пад наш «блёк». Паходзіць па папары каля блёка, падыдзе нават да прыпынку гарадскога аўтобуса і бяжыць назад. Часта прыбягаюць сюды зайцы. Ядуць траву на выгане, ды з якім страхам! Схопіць заяц пару травін, і пакуль перажуе, азіраецца навакал, ці няма якой пагрозы...

Зімой снег пакрывае папар і галіны хвоек. Іней блішчыць на голых галінах дрэў і кустоў. На абляпіхах жаўцеюць жывыя сініц і чырванеюць снегіровы.

Прыгожа!

# Жыдоўскія выхадцы з Орлі

**Пачалося дзякуючы тыднёвіку „Ніва". Будзе ўжо дваццаць пяць гадоў з таго часу, калі я пачаў распытваць і запісваць успаміны пажылых людзей. І запісваю далей. Гэта літаральна соткі чалавечых біяграфій, іх хваляванняў і перажыванняў, а часта таксама ўспаміны расказаныя ім іхнімі продкамі.**

Мае найстарэйшыя расказчыкі нарадзіліся ў самым пачатку XX стагоддзя — яны сталі самай багатай крыніцай ведаў пра тадышняе жыццё, пра даўнюю гісторыю. Менавіта першая палова XX стагоддзя нагрувашчана была многімі гістарычнымі здарэннямі. Тыя людзі многа перажылі і выцерпелі.

З цячэннем гадоў запісаных мною ўспамінаў прыбывала. Сёння гэта сотні касет — я пастаянна працую з магнітафонам. І маю іх у сваёй галаве, ведаю, што на якой касеце запісана. А тыя людзі, што ўжо даўно адышлі, далей „жывуць". Зараз, калі ўжо другі год рыхтую да друку сваю абшырную кніжку, няраз пытаюць мяне, што раблю. Адказваю, што размаўляю з нябожчыкамі. Тыя здзіўляюцца: „Ходзіш на могілкі?" — „Не, размаўляю дома", — адказваю. Мой размоўца моўкне і хіба не ведае ў чым тут закавычка. „Адслухоўваю запісаныя ў 1990-х гадах размовы". І тут усё высвятляецца; і здзіўлення няма.

Успаміны краналі многіх тэм — падзей з першай паловы XX стагоддзя, датычных людзей з Орлі і наваколля. А кожная ўспомненая падзея, гэта асобная шырокая тэма. І пасля многіх гадоў суперажывання так шматлікіх успамінаў адкрылася перад мною нечаканае багацце — магчымасць аўтарскага аналізу даследаванага матэрыялу, значыць азнямлення з гістарычнай праўдай, асабліва пра арлянскіх жыдоў. І менавіта таму так многа часу займае такі сумленны падыход да напісання аўтарскай кніжкі (каля чатырохсот старонак фармату А-4) пра сапраўдную гісторыю маёй Орлі. У мінулым годзе я ўсе запісаныя на касетах успаміны яшчэ раз праслухаў, дапоўніў тэксты публікаваных мною матэрыялаў і дзе-ня ўзе выправіў.

Што цікавае: той аналіз дазволіў мне ўзбагаціць тэмы чарговых маіх роспытаў. І істотнае, ён дазваляе дапаўняць і выпраўляць змест некаторых кніжак і інтэрнэтных публікацый датычных Орлі. І той аналіз дазваляе мне прадставіць сапраўдную гісторыю Орлі, дапоўненую нoваадкрытымі архіўнымі дакументамі з амерыканскіх фондаў ды з фондаў Інстытута нацыянальнай памяці.

Многія запісаныя мною ўспаміны кранaлі бежанства 1915 года і таго, што „арлянскія жыды ў бежанства не падаваліся". Прыглядаючыся жыдоўскім лёсам, такое сцвярджэнне не ўлічвае таго, што многія жыды пастаянна эмігравалі. Вядома, не на ўсход, бо адтуль іх раней прагналі.

У выніку абмежаванняў, уведзеных царскімі „часовымі правіламі" ад 3 мая 1882 года, і пагромаў, каля мільёна жыдоў было прагнаных з глыбіні Расійскай Імперыі ў заходнія губерні. Бежанцы трапілі таксама ў Гродзенскую губерню, у тым ліку і ў Орлю.

У 1878 годзе ў Орлі пражывала 2351 асоба, у тым ліку 1812 жыдоў (77%). У 1882 годзе мястэчка Орля налічвала 3057 жыхароў, у тым ліку 2455 жыдоў (80,3%). У 1897 годзе ў Орлі было 3003 жыхары, у тым ліку 2310 жыдоў (77%).

Пра сітуацыю жыдоў у канцы XIX стагоддзя пісаў бранькі гісторык Збігнеў Раманюк. Заезд перасяленцаў у Орлю падкапаў эканамічны быт мясцовых жыдоў. Абставіны пагаршаў упадак рукадзелля і прагрэсуючы заняпад дробнага гандлю. Беспрацоўе прымусіла многіх да эміграцыі ў Амерыку. З Орлі з канца XIX стагоддзя да 1922 года ў Злучаныя Штаты Амерыкі выехала некалькі дзясяткаў жыдоў. (Паводле іншых крыніц — каля 730 да выбуху Першай сусветнай вайны).

Жыдоўскае грамадства Орлі падзялілася на: сіяністаў — прыхільнікаў заснавання сваёй дзяржавы ў Палесціне, сацыялістаў, згуртаваных у партыі Бунд — якія спадзяваліся на развіццё сацыялістычнага руху. Трэцюю групу склалі набожныя артадаксальныя жыды ды ўсе апошнія, у тым нешматлікія адабраючыя асіміляцыю.

Вынікі перапісу насельніцтва з 1921 года паказваюць значныя дэмаграфічныя змены, выкліканыя Першай сусветнай вайной, у тым ліку і бежанствам. Лік жыхароў Орлі падае да 1518 асоб, у тым 1167 жыдоў (76,9%).

Запар з наплывам у ЗША мільёнаў жыдоўскіх імігрантаў пачалі ўзнікаць зямляцтвы, званыя ў ідыш ландсманшафтамі. У польскай гістарыяграфіі гэтая тэма амаль недаследаваная і абмяжоўваецца да некалькіх выпадковых артыкулаў або кароткіх заметак. Захоўваныя ў фондах нью-йоркскага Інстытута яўрэйскіх даследаванняў YIVO архівы звыш тысячы зямляцтваў з'яўляюцца каштоўнымі і часта адзінымі крыніцамі па гісторыі многіх польскіх мясцовасцей. Гэтай справай заняўся гісторык Войцех Канoньчук з Асяродка ўсходніх штудыяў у „Штоквартальніку гісторыі жыдоў" ад сакавіка 2019 года.

Расійская Імперыя была дзяржавай з найбольшым у свеце лікам жыдоўскага насельніцтва. У 1897 годзе ў Расіі пражывала 5,2 мільёна жыдоў, а ў 1881-1914 гадах выэмігравала два мільёны, з чаго 1,56 мільёна пасялілася ў ЗША. Гэта абазначае, што да выбуху Першай сусветнай вайны з Бельска-Падляшскага магло выехаць каля 1220 жыдоў, а з Орлі каля 730. (Старэйшыя жыхары не згадвалі пра так масавую эміграцыю, магчыма і таму, што я іх пра гэта не распытваў.) На 1919-1924 гады выпадае чарговая вялікая хваля жыдоўскай эміграцыі.

Празмерна паблажлівая амерыканская іміграцыйная палітыка доўжылася да 1924 года і наплыў эмігрантаў быў абмежаваны. У ЗША хутка сталі ўзнікаць тысячы жыдоўскіх зямляцтваў, гуртуючых людзей паходзячых з адной мясцовасці і прымаючы ад тае мясцовасці назву. Іх мэтай была ўзаемадапамога і імкненне да захавання тоеснасці ў Новым Свеце; яны трымалі таксама кантакт з месцамі свайго паходжання.

Першае зямляцтва арлянскіх жыдоў узнікла ў 1892 годзе ў Нью-Йорку па ініцыятыве Макса Шарашова і прыняло назву Independent Orler Benevolent Society (IOBS). Другая арлянская арганізацыя Orler Brotherhood узнікла на пераломе XIX і XX стст. і была згуртавана з найбольшым жыдоўскім брацтвам Independent Orler of Brith Abraham; у 1919 годзе абедзве апошнія арганізацыі аб'ядналіся. Трэцяй арганізацыяй жыдоўскіх эмігрантаў з Орлі была заснаваная ў 1910 годзе Orler Branch 410 of Workmen's Circle, будучая аддзяленнем большай арганізацыі. Апошнім арлянскім зямляцтвам было сястрынства Orler Sisterhood, заснаванае пяцідзесяццю жанчынамі ў 1921 годзе. Супрацоўнічала яно з мужчынскімі зямляцтвамі і праводзіла таксама ўласныя ініцыятывы. Цікава, што да зямляцтваў прымаліся толькі здаровыя асобы, якія маглі плаціць патрабаваныя ўзносы.

Найбольшым тэстам арлянскіх зямляцтваў стаў вялікі пажар Орлі 18 мая 1938 года, калі амерыканскія жыдоўскія выхадцы з Орлі дапамаглі адбудаваць усе будынкі — але пра гэта напішу іншым разам.

Пасля Другой сусветнай вайны ў Орлі не пасяліўся ніводзін жыд, але ў пачатку студзеня 1947 года ў Бельску пражывала сямнаццаць арлянскіх жыдоў. У снежні 1946 года Orler Sisterhood прызначыла на падтрымку землякоў тысячу долараў, а Independent Orler Benevolent Society выслаў пяцьсот долараў ды вялікую



Фота Марка ХМЯЛЕЎСКАГА

Аўтар (усярэдзіне) з Ліляй і Чыяй Эдэльман з Ізраіля ў час наведвання імі Орлі

пасылку з харчамі і вопраткай. У сакавіку 1947 года Кола арлянскіх землякоў у Бельску паслала падзяку, паведамляючы, што дары будуць размеркаваны паміж уцалелых арлянскіх жыдоў, пражываючых у Бельску, Шчэціне і ў Ніжняй Сілезіі.

На схіле 1970-х гадоў надалей існавалі Independent Orler Benevolent Society (у 1954 годзе 194 члены, у 1965 годзе толькі 105 членаў), арлянскі Workmen's Circle ды Orler Sisterhood.

Зямляцтвы IOBS і Orler Sisterhood падалі заяву ў амерыканскі суд супраць ураду ПНР, дамагаючыся кампенсацыі ў квоце сарака тысяч долараў за знацыяналізаваны ў 1945 годзе будынак арлянскай сінагогі з XVIII стагоддзя. Абедзве арганізацыі даказвалі, што іх члены (разам 172 асобы) з'яўляюцца нашчадкамі 86% колішніх жыдоўскіх жыхароў Орлі. Пасля некалькіх гадоў справа закончылася выйгрышам арлянскіх зямляцтваў, але няма ніякіх інфармацый, што квоту ўдалося спагнаць.

[У 1950-1970-х гадах будынак арлянскай сінагогі быў даведзены амаль да руіны. ГС трымаў у сінагозе штучныя ўгнаенні; калійная соль панішчыла сцены будынка, па сёння адпадае тынк. У сінагозе трымалі таксама салому, сена, крыху збожжа, пасля была там скупка і склад саламяных каробак...]

4 сакавіка 1984 года закончыла дзейнасць Independent Orler Benevolent Society. На апошняй сустрэчы старшыня Сэм Кварэцкі, віцэ-старшыня Жорж Далінскі ды трынаццаць іншых прысутных членаў вырашылі пра самароспуск зямляцтва.

У сабраных мною ўспамінах даўнія жыхары Орлі запамяталі прозвішчы шматлікіх арлянскіх жыдоў, якія ў міжваенны перыяд эмігравалі ў Амерыку, якія, верагодна, станавіліся членамі арлянскіх зямляцтваў. Запамяталі таксама тых, якія эмігравалі з Орлі ў Палесціну з думкай стварэння сваёй дзяржавы, якія ўжо ў Ізраілі сустракаліся штогадова доўгі час. З цячэннем гадоў, з паміраннем, узаемныя кантакты эмігрантаў з Орлі парваліся і зніклі. Пасля нейкага часу нашчадкі эмігрантаў затужылі і хочуць аднавіць кантакты са сваімі равеснікамі, нашчадкамі былых эмігрантаў. Некаторыя з іх наведваюць Орлю, сустракаюцца са мною. І распытваюць, пазнаюць праўду, у чым дапамагаюць запісаныя мною ўспаміны арлянскіх старажылаў.

Мае суразмоўцы ўспамінаюць тых жыдоў, якія ўратаваліся ад халакосту, і тых, якія пасля вайны наведалі Орлю сваіх сямейнікаў. Ёсць у мяне і ўспаміны некалькіх асоб, якіх саветы разам з сем'ямі саслалі ў Сібір, а таксама ўспаміны грамадзян Ізраіля, якіх продкі ў 1930-х гадах выехалі з Орлі ў Палесціну.

Нашым абавязкам перад жыдоўскім народам ёсць і астанецца павага да гістарычных фактаў і супрацьўленне спробам заціранія і перайначвання сапраўднай гісторыі. А з гэтым справы маюцца па-рознаму, аб чым я пераканаўся і пераконваюся ў ходзе камплектавання матэрыялаў да будучай кніжкі ды разгляду архіўных дакументаў арлянскай пачатковай школы з міжваеннага перыяду. Аб гэтым яшчэ напішу.

Міхал МІНЦЭВІЧ

# Каранавірус: як падрыхтавацца да піку эпідэміі?

**Падмацуй свой імунітэт у тры этапы**

Калі хочаш максімальна павялічыць свае шанцы на барацьбу з каранавірусам, твая імунная сістэма павінна быць падмацавана — прытым хутка. Імунная сістэма падобная на „нацыянальную палітыку” твайго арганізма. Яна вызначае пагрозы з боку староніх людзей і спрабуе змагацца з гэтымі небяспекамі. Умацоўваючы імунітэт, будзеш значна менш успрымальны да бактэрыяльных і вірусных інфекцый.

Вось тры этапы, якія дазволяць табе хутка ўмацаваць імунітэт.

**КРОК 1.** Тваім клеткам патрэбныя гэтыя пажыўныя рэчывы. Адкрый для сябе спіс пажыўных рэчываў, якія іграюць ключавую ролю ў функцыянаванні імуннай сістэмы:

Цынк: удзельнічае ва ўсіх стадыях выпрацоўкі антыцелаў і лейкацытаў. Купляючы дыетычныя дабаўкі, пераканайся, што яны ўтрымліваюць цытрат цынку. Цынк сустракаецца ў гарбузовых семечках, а селен у бразільскіх арэхах.

Вітамін C: у ідэале, выбірай той, які паходзіць з пладоў ацэролы або Каму-Камю. Лепш не выбірай форму шыпучых таблетак.

Вітамін D: удзельнічае ў дыферэнцыяцыі лейкацытаў. Калі прымаеш дозу ў 10 000 адзінак у дзень, гэта будзе эквівалентна дню, калі ты паддаваўся ўздзеянню сонца.

Глютамін — гэта амінакіслата, якой аддаюць перавагу лейкацыты — гэта іх паліва дазваляе ім практычна «пажыраць» іншародныя целы, якія атакуюць арганізм. L-глютамін складае больш за 60% усіх амінакіслот, якія будуюць чалавечыя мышцы. Шкілетная цягліца — адзін з яе самых вялікіх рэзервуараў, пры неспрыяльных для арганізма ўмовах (стрэс, хвароба, фізічны высілак) попыт на L-глютамін хутка павялічваецца, што зніжае яго запас. У гэтым выпадку неабходны дабаўкі.

Кішачная мікрафлора з'яўляецца домам твайго імунітэту. Таму яе трэба сілкаваць бактэрыямі добрых штамаў, напрыклад LA802 і LA201.

**КРОК 2:** Пазбягай стрэсаў і высыпайся. Стрэс заўсёды суправаджаўся стратай ахоўных механізмаў нашага арганізма — навука даказвала гэта неаднаразова. Перш за ўсё выключы тэлевізар. Хоць мы спакушаемся сачыць за ўсімі навінамі, памятай, што яны зараз выклікаюць занадта шмат трывогі. У паведамленнях у СМІ асноўная ўвага надаецца толькі сур'ёзным выпадкам, якія проста забяспечваюць гледачам станцыі «аглядальнасць».

Дыхай правільна.

Калі ў гэты момант ты моцна састрэсаваны або думаеш пра балючыя падзеі, твой арганізм зніжае выпрацоўку імунаглабуліну A і антыцелаў. Менавіта таму рэкамендую дбаць пра сваё здароўе і супакой у гэтыя дні.

Калі спіш і больш адпачываеш, робіш сваю імунную сістэму больш эфектыўнай. Амерыканскія навукоўцы даказалі, што фактары сацыяльнага асяроддзя (стрэс, неспакой, дэпрэсія) уплываюць на паводзіны пэўных генаў у лейкацытах, на гены, якія ўдзельнічаюць у актывацыі імуннай сістэмы, і на супрацьзапаленчыя рэакцыі.

**КРОК 3:** Натуральны арсенал барацьбы з вірусамі. Першыя два крокі прызначаны для ўмацавання імунітэту. Гэты крок дазваляе нам ведаць, што рабіць у крызісе. Вось лепшыя прыродныя рэчывы, якія ўмацоўваюць імунітэт і нястомна змагаюцца з інфекцыямі, якія могуць вас датычыць. **Эхінацэя** вельмі папулярная ў сучасных аптэках і крамах здаровай ежы. Гэта расліна, якая стымулюе імунітэт і абараняе ад інфекцый; яе ўжываюць у выглядзе настою або настойкі, напрыклад пры насмарку. **Грыбы рэйшы** (Ganoderma lucidum) і шыітаке (Lentinus edodes) стымулююць імунную сістэму. Рэйшы — гэта грыб, які зніжае стомленасць, валодае супрацьзапаленчымі і імунастымулюючымі ўласцівасцямі, яго ўжываюць у дозе 500 мг штодня. **Чорная парэчка** (Ribes nigrum) і **шыпшына** (Rosa canina) прымаюць удзел у актывізацыі арганізма і ў барацьбе са стомленасцю — рэкамендую настойваць яе як мінімум 3 месяцы. **Праколіс** — твая наступная зброя. Чысты праполіс у дозе ад 1 да 3 г у дзень на працягу 2-3 тыдняў дапаможа абараніць арганізм ад знешніх пагроз. Ён умацоўвае імунітэт, таму выкарыстоўвай яго для барацьбы з рэспіраторнымі інфекцыямі: віруснага грыпу, бранхітам, прастудай, ангінай. Ён выдатная крыніца кафеінавай кіслаты, якая стымулюе імунны адказ. Праполіс аказвае моцнае антыаксідантнае дзеянне дзякуючы ўтрыманню флаваноідаў (у тым ліку апігеніну). Дзякуючы гэтаму ён можа перашкаджаць рэплікацыі віруса.

Нарэшце, араматэрапія, гэта значыць прымяненне эфірных алеяў, сярод іншых: ядлоўцу, чабору, эўкаліпту, мяты, чайнага дрэва, лімону або горкага апельсіна. Будзь, аднак, асцярожны, бо гэтыя эфірныя алеі вельмі моцныя. Перад ужываннем лепш звярнуцца па кансультацыю да спецыяліста, бо некаторыя хваробы выключаюць іх прымяненне.

Агата АРЛЯНСКАЯ

---

Vitaem Сувеніры пра Беларусь

Дзе купіць?

Навінка!

СКАРБОНКІ ДЛЯ ВАШЫХ МАНЕТ

падрабязней

http://vitaem.by

Эпідэміялагічная сітуацыя ў свеце такая, што зусім не спрые турызму. Шмат якія краіны зачынілі свае межы на добры замок, справядліва баючыся занясення з замежнікамі бацыл новага, мала вывучанага каранавіруса. Ды і ўласна патэнцыйныя вандроўнікі лічаць за лепшае перасядзець гэты час у сябе дома, не выходзячы без асаблівай патрэбы нават на вуліцу.

Але ў шэрагу еўрапейскіх краін выдзяляецца Беларусь, дзе нязменная ўлада аднаго чалавека не лічыць патрэбным забараняць уезд замежным грамадзянам. Чым такія паводзіны адгукнуцца для беларусаў, пакажа час, але ўжо можна канстатаваць, што беларускае начальства ў асобе прэзідэнта Лукашэнкі паказала, наколькі глыбока яму напляваць на ўласны народ. Гэта тое, што маем на сёння. Але ў перспектыве, зразумела, эпідэмія каранавіруса зыдзе, межы адчыняцца, і праз іх хлынуць турысты, надаючы сэнс існаванню ўсёй турыстычнай і калятурыстычнай індустрыі. І калі яны прыедуць у беларускую краіну, верагодна, што захочуць там набыць нейкі цікавы мясцовы сувенір.

У цяперашні час сувеніры для турыстаў у Беларусі прапануе шмат хто. Зразумела, што на продажы рэчаў, аздобленых нечым аўтэнтычным можна зарабіць. Таму гэты накірунак заўсёды будзе прыносіць можа не надта вялікі, але прыбытак.

Адным з бізнес-праектаў, праз які людзі займаюцца вырабам і продажам сувеніраў з сапраўдным беларускім, а не савецка-беларускім аздабленнем, ёсць „Вітаем”. Пра яго распавядаецца на сайце **http://www.vitaem.by.**

„Vitaem — гэта гандлёвая марка сучасных сувеніраў пра Беларусь. Аднойчы ўбачыўшы, што ў Беларусі нацыянальныя сувеніры прадстаўлены ў асноўным аўтэнтычнымі рэчамі, пераважна ручнога вырабу, нам прыйшла ідэя вытворчасці новых прома сувеніраў, аб'яднаных у асобныя калекцыі. У 2010 годзе мы распрацавалі і пачалі вытворчасць простых, але яркіх, адказваючых духу часу, сувеніраў невысокага кошту. Прадукцыя даволі хутка стала папулярнай і мы пачалі пашыраць калекцыі і павялічваць аб'ёмы вытворчасці. Асноўнай мэтай для сувеніраў Vitaem мы лічым папулярызацыю Беларусі як краіны для турыстаў, а таксама выраб рэчаў з нацыянальным характарам для саміх жыхароў краіны”, — адзначаецца на старонцы „Праект”.

Стваральнікі брэнда лічаць, што нацыянальны сувенір — гэта не проста рэч, якую госці набываюць на памяць аб падарожжы, і не проста тавар, які павінен прынесці прыбытак вытворцу. „Гэта рэч, якая адлюстроўвае культуру і гісторыю краіны ці месца”, — упэўнены мінскі індывідуальны прадпрымальнік Аляксей Каралёў, які займаецца беларускімі сувенірамі.

На сайце прадстаўлена даволі многа разнастайных вырабаў, якія падкрэсліваюць нацыянальную арыентаванасць аздаблення. Тут і тэрмакубкі, і посуд, і алоўкі, і кепкі, і ручнікі, і торбы, і футболкі і шмат чаго іншага. Набыць іх можна як праз інтэрнэт, так і ў розных крамах, праўда, толькі ў Беларусі па-за межамі Мінска не вельмі вялікая — яны яшчэ ёсць у дзесяці гарадах, нават не ва ўсіх абласных.

Ёсць на сайце рубрыка „Навіны”. Хаця не зусім зразумела, навошта яна існуе, бо апошняя „навіна” датуецца лютым 2018 года. Таксама няясна, чаму ўладальнікі брэнда, павіншаваўшы патэнцыйных пакупнікоў адзін раз з новым 2016 годам, потым забыліся на такія віншаванні.

Аляксандр ЯКІМЮК

---



Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

# *115 гадоў з дня нараджэння* Браніслава РЖЭЎСКАГА

Беларускі літаратуразнавец, педагог, дысідэнт Браніслаў Ржэўскі нарадзіўся 25 сакавіка 1905 г. у вёсцы Добрыцкае (Барысаўскі раён). У 1927 г. скончыў педагагічны тэхнікум у Барысаве і да 1930 г. працаваў настаўнікам у сёлах Гомельшчыны. У 1940 г. скончыў Магілёўскі педінстытут, працаваў у адукацыйных установах Магілёва. З сакавіка 1940 да чэрвеня 1941 г. працаваў у Баранавічах дырэктарам польскай сярэдняй школы імя Міцкевіча.

У Другую сусветную вайну браў актыўны ўдзел у антыгітлераўскім супраціве — на тэрыторыі былой Баранавіцкай вобласці стварыў падпольную дыверсійную групу, якой кіраваў. Група ўвайшла ў кантакт і падтрымлівала сувязь з савецкімі партызанамі.

З кастрычніка 1944 па 1955 г. працаваў выкладчыкам і загадваў кафедрай мовы і літаратуры ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце. Там стварыў гурток па зборы і вывучэнні вуснай народнай творчасці. Уваходзіў у склад Камісіі па зборы матэрыялаў аб злачынствах фашыстаў на тэрыторыі Баранавіцкай вобласці. У 1952 г. абараніў дысертацыю пра творчасць Максіма Танка, стаў кандыдатам філалагічных навук. У 1955 г. пераехаў у Гродна і да 1957 г. выкладаў беларускую літаратуру ў Гродзенскім педагагічным інстытуце.

У той час актыўна праводзілася палітыка русіфікацыі. У сярэдзіне 1950-х гадоў Ржэўскі пачаў уласную кампанію публічных зваротаў да ўлад, пісаў лісты ў цэнтральныя беларускія газеты і установы, звяртаўся да вядомых дзеячаў БССР. У рэзкай форме пісаў пра палітыку, якая праводзілася ў Беларусі, пра адміністрацыйныя абмежаванні беларускай мовы ў сферы адукацыі, культуры і публічнага жыцця. Арганізаваў напісанне студэнтамі інстытута, сярод якіх быў вельмі папулярны, заяў пра становішча роднай мовы.

16 лютага 1957 г. арыштаваны проста на лекцыі ў інстытуце, а ў яго доме быў праведзеныператрус. 21 лютага 1957 г. праведзены паўторныператрус, у выніку якога з асабістай бібліятэкі былі канфіскаваны кнігі, пераважна выдадзеныя ў міжваенны перыяд у Заходняй Беларусі кнігі беларускіх антыкамуністычных аўтараў. Канфіскаваныя баявыя ўзнагароды, а таксама рукапісы вершаў, у якіх Сталін называўся забойцам, Няронам і Чынгісханам, а беларусы заклікаліся да вызвалення.

У абарону Ржэўскага была праведзена грамадская кампанія. Сяляне в. Скарчэва, дзе ў пачатку вайны ён жыў, сабралі 35 подпісаў у яго абарону. Асобна склала хадайніцтва група мясцовых дэпутатаў. 25 сакавіка 1957 г. засуджаны Гарадзенскім абласным судом да 7 гадоў пазбаўлення волі. Трапіў у лагеры ГУЛАГу, калі тысячы людзей ужо выходзілі з іх. У зняволенні працягваў кампанію петыцый. Накіраваў сябру Прэзідыуму ЦК КПСС і заадно міністру культуры СССР Екацярыне Фурцавай ліст пра становішча беларускай мовы ў БССР. Тэрмін адбываў у Дуброўлагу (Мардовія). У 1961 г. Пленум Вярхоўнага суда БССР перагледзеў справу і датэрмінова яго вызваліў.

Пасля вяртання ў Гродна апынуўся ў атмасферы ізаляцыі: пісаў літаратуразнаўчыя артыкулы і рэцэнзіі, але публікаваць іх было забаронена. Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе. За домам быў арганізаваны нагляд КГБ.

Памёр Браніслаў Ржэўскі ў Гродне 10 лютага 1980 г. Пахаваны на могілках па праспекце Касманаўтаў. 29 сакавіка 1990 г. пасмяротна рэабілітаваны. З тых твораў, якія не забраў КГБ у часператрусаў, з літаратурнай спадчыны засталася нязначная частка. У 1989 г. беларускі часопіс „Крыніца” упершыню апублікаваў фрагмент успамінаў пра Ржэўскага.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Любіць „Ніву”

Адной са шматгадовых чытачак беларускага штотыднёвіка „Ніва” з'яўляецца Вера Клімюк з вёскі Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Заахвоціў яе да чытання беларускага часопіса брат яе мужа Уладзімір Клімюк, наш былы ніўскі карэспандэнт. І спадарыня Вера палюбіла „Ніву”. Калі была даўжэйшы час на рэабілітацыі ў шпіталі ў Гайнаўцы, тады купляла беларускі тыднёвік у тамашніх кіёсках. Давала пачытаць газету іншым жанчынам. „Ніву” чакала кожны тыдзень.

Спадарыню Веру цікавяць артыкулы і допісы пра тое, што адбываецца ў Нараўчанскай ды суседніх з ёю гмінах, пра іх дасягненні ў розных галінах. Сама яна родам з Бяндзюгі Міхалоўскай гміны. Тая вёсачка распалажана на правым беразе ракі Нарвы. Тут нарадзілася і хадзіла ў школу ў Круглым Ляску. Была добрай вучаніцай. У школе вучылася правільна чытаць і пісаць па-беларуску.

Наша чытачка — удава і шмат гадоў на калясцы, але не здаецца, не падае духам. Яна жыццярадасная і добра сабе радзіць з жыццёвымі праблемамі. Мае добрых сыноў і сынавых. Яны ёй дапамагаюць. У доме і на панадворку ўсюды парадак. А вясной і летам каля дома поўна кветак. Спадарыня Вера не сумуе. Галубіць сваіх любімых унучак і ўнукаў. Яны ў яе прасторным двухпавярховым доме частыя госці. І гэта яе вельмі радуе.

Наведваю яе з новым выданнем „Нівы”. Тады і ёсць нагода запытаць, што апошнім часам асабліва зацікавіла яе ў родным часопісе. А тэм усялякіх шмат і можна заўсёды нешта выбраць. Наша чытачка сочыць за пастаяннымі рубрыкамі. Адшуквае 11 старонку, на якой гараскоп. Многа допісаў новаляўкоўскага карэспандэнта, які і піша (у яго многа розных тэм), і „Ніву” распаўсюджвае. Ён едзе з газетай да пастаянных чытачоў, але падшуквае і новых. Вёскі выміраюць, дзе не павярніся. Ніўскі карэспандэнт вельмі перажывае, калі паміраюць чытачы роднага часопіса і калі едучы па дарозе мінае іх пустыя хаты і панадворкі. Зараз толькі ў Новым Ляўкове шаснаццаць такіх хат і мала менш у вёсцы Плянта. **(яц)**

## Ужо зацвілі пралескі

У Белавежскай пушчы зацвілі пралескі і анемоны (курасleп). У сонечную нядзелю, 22 сакавіка гэтага года, ехаў я па гравійцы з вёскі Бярнацкі Мост у вёску Крыніца Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Затрымаўся там, дзе скрыжаванне і пачынаецца дарога цераз лес у сяло Капітаншчына. Пры капітанскай дарозе найперш убачыў сінія пралескі.

Пачаў я тады бачна прыглядацца, а тут жа каля пралесак з-пад мінулагодняга сухога лісця вытыркаюцца кволенькія белыя анемоны (як памятаю з дзяцінства, нашы бацькі называлі іх скарoздрай). Так вось вясна-красна прыйшла да нас з кветкамі. Будзе іх многа, калі толькі пацяплее на двары. Трэба дадаць і гэта важна, што вышэйзгаданых кветак нельга зрываць, бо яны пад аховай. **(яц)**

## Плебісцыт „Віртуальныя гуслі”

Рушыў XVII выпуск інтэрнэт-плебісцыту „Віртуальныя гуслі” на фалькавую пласцінку 2019 года. Галасаванне пачалося 16 сакавіка і будзе доўжыцца па 30 красавіка да поўначы. Галасаванне адбываецца на інтэрнэт старонцы http://www.gesle.folk.pl Інтэрнаўты будуць выбіраць найлепшы фолькавы кампакт-дыск з 72 альбомаў з шырока разумелай фолькавай музыкі, традыцыйнай, этнічнай, музыкі света і музыкі з іншых крыніц. Дадаткова кожны ўдзельнік можа выбраць, па сваей думцы, найпрыгажэйшую вокладку пласцінкі. Спецыфікай фолькавай музыкі з'яўляецца разнавіднасць, таксама багацце інспірацый стылістычных як і геаграфічных. Ад традыцыі і крыніц (вясковых музыкантаў), па музыку сучасную, рокавую, фолькджэзавую ці фольк-металік. Ад польскай сучаснай музыкі традыцыйнай (гарадской і вясковай), па інспірацыі блізкімі і далёкімі культурамі з усяго свету. У выпусках віртуальных гусляў знойдзем разнавіднасць і багацце музычных думак. Ляўрэатам першага выпуску Віртуальных гусляў з 2003 года быў гурт „Чарамшына” з Чаромхі. Перамог іхні кампакт-дыск „Гуляй пакуль час”. У 2018 годзе перамог Percival — SLAVA III PIEŚNI SŁOWIAN ZACHODNICH. **(УС)**

## Дзве крамы

Зараз на вёсках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ўсё менш і менш прадуктовых крамаў. Закрылі іх, між іншым, у Гушчэвіне, Лешуках, Міклашэве, Новым Ляўкове, Свінароях і Скупаве. Былі гэта крамы Гміннага кааператыва. ГС закрыла адну сваю краму ў Нараўцы.

Добра працуюць крамы ГС у вёсках Старое Ляўкова і Плянта. Пахвалы заслугоўваюць прадаўшчыцы. Яны клапоцяцца, каб на паліцах у краме былі харчовыя прадукты, не гаворачы ўжо пра прадукты г.зв. першай патрэбы. Асабліва цяпер хочацца зайсці ў краму ў Старым Ляўкове. Тут новыя прадаўшчыцы і багаты асартымент тавараў. Ужо наракаць на тутэйшы гандаль не трэба. І зараз не трэба ехаць у маркет „Аргелян” у Нараўцы, трацячы час і бензін.

Абедзве вышэйзгаданыя крамы патрапілі прыцягнуць пакупнікоў да сябе і яны будуць далей і далей існаваць і добра служыць вясковаму насельніцтву пятнаццаці вёсак у васьмі салэтвах. Гэтак можна спадзявацца. Прадаўшчыцам зычу непахіснай стойкасці і поспехаў у працы. Зараз неабходна ж змагацца з г.зв. канкурэнцыяй. **(яц)**

## Нарэшце сухія елкі ссеклі

У лесе пасярод сярэдняй часткі вёскі Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета расло многа высокіх прыгожых елак. Іх атакавалі караед. Елкі згубілі зялёныя іголкі, сохлі і пахіліліся долу. Так яны стаячы паміралі. Некаторыя з іх знаходзіліся пры асфальтавай павятовай дарозе да чыгуначнага вакзала. У мінулым годзе рабіў я фотаздымкі тых высокіх сухіх і грозна пахіленых набок дрэў (елак) і адзін з іх быў у „Ніве”.

Быў я ў Плянце 16 сакавіка гэтага года ды ехаў павятовай дарогай пры вышэйзгаданым лесе з высунутым да шашы прыгожым вялікім дубам над ручаём. Што зараз убачыў — елкі, якія стваралі небяспеку для дарожнага руху, ссеклі. Нарэшце! **(яц)**

## 29.03 — 04.04

**(22.03. — 20.04.)** Пазітыўныя змены. За што возьмешся — заменіцца ў золата. 29-30.03. перастанеш пераймацца недахопам грошай. 27-31.03. рамантуй, будуй. Знойдзеш спосаб, каб паправіць сваю фінансавую сітуацыю. У красавіку прыпыняцца твае справы, будзеш натыкацца на перашкоды, што цябе, вядома, раззлуе. Табе выразна не хапае экстрэмальных перажыванняў, каб пачуць смак жыцця.

**(21.04. — 21.05.)** 28-31.03. прыцягне цябе тое, чаго найбольш жадаеш. 28-31.03. будзеш патрабаваць дапамогі; пераканаешся, на каго можаш разлічваць. 29-30.03. павышэнні, прэміі, выезды; павышай кваліфікацыі. Народжаныя ў II дэкадзе маюць шчасце да выйгрышаў! Рэалізуй творчыя і мастацкія планы. У красавіку пачнецца твой добры асабісты год. Падвядзі былое і плануй будучыню.

**(22.05. — 22.06.)** Дасі рады. Магчымае ахаладжэнне ў пары — не працягнецца доўга. Найлепшы сябра — ложак і добры сон. Прыемныя нечаканасці. Магчымы лішак рамантызму. Паспяховая прафесійная актыўнасць. Сканцэнтруйся перш за ўсё на сабе і сваім унутраным жыцці. Дбай аб страваванне сям'і, кампануй салаткі, еж часнок, цыбулю.

**(23.06. — 23.07.)** Меркурый паможа ў кар'еры. Някепскі час. 29-30.03. можаш трапіць на кагосьці, хто цябе зачаруе. 28-31.03. трапныя фінансавыя прыёмы. Будзеш вельмі творчы, пакажы свой талент шырэйшаму колу атрымальнікаў; заробіш на гэтым немалую касу. Будзеш баявіта пастаўлены да старэйшых. У красавіку прыйдзецца напружыцца, каб дасягнуць поспехаў.

**(24.07. — 23.08.)** У апошнія дні сакавіка пазнаёмішся з асобай, якая зойме ў тваім сэрцы сваё месца. Змена атачэння добра табе зробіць. 28-30.03. большыя выдаткі. Не думай пакуль аб змене працы. Мілыя людзі, хоць некаторыя будуць ахвотныя да благіх парад. Пра свае дасягненні гавары гучна. Будзь вельмі асцярожны на дарозе!

**(24.08. — 23.09.)** Цешся тым, што маеш. Забудзь пра старыя турботы. 28-31.03. Дзевы без пары могуць закахацца, але старайцеся не ў занятых. 28-31.03. прыгадай шэфу аб абяцанках. Магчымая напруга ў адносінах. На працы важная хуткасць мышлення і рэакцый. Крыху небяспечныя рамантычныя падзеі. Трэба пазмагацца з вясенняй лянівасцю.

**(24.09. — 23.10.)** Не круці носам на ўсё і старайся выкрасаць з сябе хоць крыху аптымізму. 28-30.03. дойдзе да вырашэнняў дома. 28-31.03. засноўвай сваю фірму, паб'еш канкурэнцыю. У красавіку ўдачы. Барані Бог не паддавайся суму! І не раскрывай перад абы-кім сваіх планаў.

**(24.10. — 22.11.)** 28-30.03. можаш папраўіць памылкі ў пары. Моцныя эмоцыі і жарсці не заўсёды табе памогуць. Часцей будзеш усміхацца. 28-31.03. прыхіліш да сябе абранніка. Паправіцца твая рэпутацыя. Скарпіёнам з пераломy II і III дэкады ўдадуцца ўсе мерапрыемствы. Чакай фінансавага прыліву; добры час для фінансавых прыёмаў, пакупак і візітаў ва ўстановах; не пападай у крайнасці.

**(23.11. — 22.12.)** Жыццё цікавае і поўнае выклікаў. Развінеш свае зацікаўленні, сустрэнеш новых людзей. Радыкальных крокаў не будзеш шкадаваць. Прытулі каханую асобу. 28-30.03. чакае вас доўгае і салодкае паяднанне. Не адмаўляйся ад новых знаёмстваў. Гармонія ў асабістых справах. 28-30.03. інвестуй у зямлю, нерухомасці. Спакойна аналізуй былое і не злуйся. Могуць уцягнуць цябе ў справы, ад якіх цяжка будзе адвязацца. Удалыя 1 і 2.04.

**(23.12. — 20.01.)** Калі марыш пра сапраўднае каханне, разглядайся за ім 28-31.03. 28-31.03. не будзь бязлітасным і нахабным. Рамантычныя захапленні, новыя знаёмствы. Хаця крыху няўстойлівы эмацыянальны фон. Не рабі рэзкіх рухаў! Магчымы паўтор неадназначнай сітуацыі з мінулага. Пазмагайся з меланхоліяй.

**(21.01. — 19.02.)** 28-31.03. не будзь нахабны і рэзкі. Не адмаўляйся ад сямейных сустрэч. Самотныя маюць шанц на платанічнае каханне. Можаш з-за яго стварыць выдатны мастацкі твор! Добра сарганізуй працу; будзеш завалены паперамі, справамі, кантактамі. Не раздавай грошай. Адпачывай, пачытай кнігу. Пазітыўнае стаўленне прынясе поспех. Адкрытасць у пары. Схільнасць бачыць свет праз ружовыя акуляры можа памяшаць табе ўсталяваць свае жыццёвыя справы.

**(20.02. — 21.03.)** 28-31.03. пашкадуй сілы на змаганне з ветракамі. Рамантычныя і чулыя лады ў пары. Немагчымасць дабіцца чагосьці давядзе цябе да злосці. А штосьці можа страціць твой інтарэс. Інвестуй у сябе. 28-30.03. знойдзеш сродкі ад спонсараў ці інвестараў, крэдыт ці датацыю на сваю прапанову. Вельмі прыглядайся таварам, якія цяпер набудзеш. Магчымыя прафесійныя і бытавыя поспехі. Толькі старайся не балбатаць аб сваіх планах. Удалыя 1 і 2.04., крыху напружаны 3.04.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — народную пагаворку.

1. мястэчка між Гроднам і Астрынай = 59 _ 60 _ 45 _ 48 _ 49 _;
2. псаломшчык у царкве = 28 _ 27 _ 43 _ 38 _;
3. антонім пераду = 42 _ 40 _ 41 _;
4. вузкі сталёвы палазок для катання па лёдзе = 5 _ 7 _ 6 _ 64 _ 65 _;
5. эстрадны танец з высокім падкідваннем ног = 13 _ 29 _ 11 _ 32 _ 57 _ 56 _;
6. Імануіл, кёнігсбергскі філосаф = 46 _ 51 _ 36 _ 47 _;
7. плод капусты = 22 _ 23 _ 33 _ 34 _ 39 _;
8. блакітнакветная валакністая расліна = 30 _ 31 _ 44 _;
9. мястэчка пры ўпадзенні Сажа ў Дняпро = 20 _ 37 _ 19 _ 26 _;
10. дзялянка высечанага лесу = 3 _ 1 _ 61 _ 62 _;
11. Іван, аўтар „Людзей на балотах” = 50 _ 52 _ 63 _ 21 _ 55 _;
12. горад між Браславам і Верхнедзвінскам = 17 _ 12 _ 15 _ 16 _;

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | | | | | | | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 |
| 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 |
| | 47 | 48 | 49 | 50 | 51 | 52 | 53 | 54 | 55 | 56 | 57 | 58 | 59 |
| | | | | | | | | 60 | 61 | 62 | 63 | 64 | 65 |

13. маштабнейшы за вудзільшчыка = 24 _ 4 _ 2 _ 25 _ 53 _;
14. „калега” абарога = 35 _ 14 _ 54 _ 58 _;
15. не палёт і не хада = 10 _ 9 _ 8 _ 18 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 9 нумара**

Ачаг, Дзяды, доза, ёд, лік, меч, пан, ртуць, Шо.

Рашэнне: **Дагодзіш чорту, а ён аддзячыць пеклам**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Ірэне Лукшы** з Гайнаўкі і **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Не за гарамі

Я шчэ перад настаннем цяперашняга каляпсу ўзяў я наўгад з бібліятэкі аўтабіяграфічную кніжку кітайскай пісьменніцы Хань Суінь. 1949 год, у Кітаі грамадзянская вайна. Аўтарка, адукаваная ў Кітаі і Вялікабрытаніі лекарка, прылятае аэрапланам з падкаланіяльнага брытанцам Гангконга ў кітайскую глыбінку, у горад Чунцін, у правінцыі Сычуань. У Чунціне, што на галоўнай кітайскай рацэ Янцзы, жыве ейная сям'я.

Задлеглага ў дваццаць кіламетраў ад горада аэрадрома прыязджае яна на аўтобусе на набярэжны прыпынак. Апускаецца па прыступках у напрамку жылля радні: „Па прыступках паднімаюцца нечужыя мне людзі. Не шустрыя кантонцы з лёгкімі касцякамі і светлымі тварамі, толькі панурыя, працаўныя людзі на цяжкіх мужыцкіх нагах, аплеценых вялікімі вянознымі вузламі. Мужчыны і жанчыны, усе працаўныя і ўбогія. Амаль кожны з нейкім цялесным уронам: заечай губой, без пальца, дэфармаваным грудной клеткай, а на агаленых плячах круглыя незажытыя гузы ад бамбукавых каромыслаў. Бачу тое, што гадамі раней бачыла — на голых нагах саламяныя сандалі, запалыя грудзі, грузы. Адзін валачэ дровы, іншы драўняны вугаль, за ім мужчына з двума вёдрамі экскрэментаў, за ім мужчына з дзвюма каробкамі абселых мухамі груш, мужчына з грузам солі, мужчына з чырвонымі, парэзанымі ў сакавітыя клінкі гарбузамі. І зноў груз экскрэментаў, і мужчына з двума вёдрамі расхлюпванай па прыступках вады. Уверх і ўніз ідуць яны, адзін за другім, у бесканечнай працэсіі, пакуль не настане цемра...”

Недзе пасярэдзіне паміж Чунцінам і Шанхаем, на той жа рацэ Янцзы, распаложаны і горад Ухань, з якога вырвалася ў свет цяперашняя пошасць; ад Чунціна па прамой лініі шэсцьсот кіламетраў, ад Шанхая таксама столькі ж. Шэсцьсот кіламетраў і семдзесят гадоў раздзяляе колішні Чунцін ад сённяшняга Уханя. Здаецца, што гэта далёка, асабліва ў часе. І здаецца, гледзячы на мадэрныя хмарачосы ў сучасных кітайскіх гарадах, што тамашняя гігіена за той час вырвалася з даўняй прымітыўнасці. На каляровых карцінках прынамсі так выглядае...

У самой рэчаіснасці ўсё гэта можа выглядаць намнога багацей. Добра вядомыя карцінкі з аркаін Рыо-дэ-Жанейра, Йаханесбурга ці Калькуты, якіх цэнтры выглядаюць як буйныя плантацыі мадэрнейшых хмарачосаў. Тыя менавіта акраіны аблеплены працаўнымі сламсамі, як раней згаданыя грушы мухамі. І там санітарная каналізацыя выглядае зблышага так, як семдзесят гадоў таму ў Чунціне. А на акраінах таго ж Чунціна, Уханя ці Шанхая не інакш — „культурная рэвалюцыя” вялікага стырнавога Мао бытавымі справамі не займалася. І ў такім біяцэнозе вірусам жыць не ўміраць. Вось жа зараз галоўным лякарствам супраць новай пошасці бачыцца менавіта чысціня — ствараць вірусу нежыццяздольныя ўмовы...

Сённяшнюю пошасць лічаць пандэміяй, сусветнай эпідэміяй. І параўноўваюць з „чорнай смерцю”, якая лютавала ў Еўропе асабліва ў XIV стагоддзі. І яе ачаг таксама быў, як лічыць шмат даследчыкаў, у Кітаі. У XIII стагоддзі Кітай быў зруйнаваны мангольскімі ордамі, гэтак жа як значная частка Еўропы. Настаў спрыяльны пошасці голад, людзі сталі масава слабець і паміраць. Менавіта тады мела ў Кітаі ўспыхнуць эпідэмія чумы, якую ці то збройныя коннікі, ці то абозы камерсантаў па толькі што пракладваным Шаўковым шляху даставілі ў басейн Міжземнага мора. Мяркуецца, што ў часе аблогі адной з крымскіх крэпасцей мангольскія ваякі закінулі ў шэрагі абаронцаў часткі заражаных гэтай хваробай трупаў. А ўцекачы з тае крэпасці, заінфекаваныя італьянскія камерсанты, завезлі „падарак” у Венецыю і Генуя. А з Італіі пошасць пайшла па суседніх краінах. У палове XIV стагоддзя ахапіла яна амаль усю Еўропу...


Кляштарны комплекс у Сямятычах


Петрапаўлаўская царква ў Сямятычах


Фарны касцёл у Сямятычах

На прадвесні 1348 года разышлася яна па Італіі, Іспаніі, паўднёвай Францыі, а ў маі завітала ўжо ў Англію і далей. Мяркуецца, што тадышні прыступ чумы зрэдукаваў напалову лік еўрапейскага насельніцтва...

Такі ўдар не астаўся без уплыву на чалавечыя паводзіны. Прычына мору не была вядомая, таму людзі гадалі рознае. Сталі абвінавачваць іншых людзей, асабліва вонкавых для свайго асяроддзя. Узнікла легенда ў нямецкамоўным абсягу, што віноўныя чуме яўрэі, якія рыхтуюць яд з сумесі павукоў, жаб, яшчарак, чалавечага мяса і свянцонага хлеба і той яд кідаюць у хрысціянскія калодзежы. А заражаючы калодзежы імкнуцца знішчыць хрысціянскае насельніцтва. Дайшло да пагромаў яўрэяў у Мюнхене, Страсбургу, Франкфурце, Гановеры, Бруселі...

Верагодна, што чума лютавала ўжо і ў Старажытнасці. Ужо асноўныя біблейскія кнігі згадваюць пра масавыя моры. У раннім Сярэдневякоўі басейнам Міжземнага мора ўскалыхнула г.зв. чума Юсцініяна, названая ад імені найбольш вядомага візантыйскага імператара, які таксама ад яе хварэў. Мяркуецца, што ў тую эпоху памерла ад яе каля ста мільёнаў чалавек.

Але і пазней, пасля хвалі „чорнай смерці”, зараза не адступала, яна што нейкі час успыхвала ў розных месцах нашага кантынента. Не пра ўсе месцы згадваюць хронікі, бо не ўсюды былі летапісцы, не ўсюды захаваліся іхнія запісы; аднак нешта з апісання таго часу ўцалела. І так у 1571 годзе ў Вільні, як падае міжваенны даследчык Антоні Валявэндэр, памерла каля дваццаці тысяч чалавек. У наступным годзе пошасць лютуе па ўсёй Польшчы, Русі, Літве і Прусіі. Можна меркаваць, што ад яе і памёр у Кнышыне апошні з Ягелонаў кароль Жыгімонт Аўгуст. І з-за гэтай пошасці ягонае цела не было адразу дастаўлена ў Кракаў, толькі год праляжала ў Тыкоціне.

У 1579 годзе Ян Замойскі, які загадваў Кнышынскім староствам, дазваляе займаць апусцелыя ад мору навакольныя гаспадаркі, звальняючы на тры гады новых пасяленцаў ад усялякіх грамадскіх абавязкаў...

Іншая міжваенная даследчыца Станіслава Дамачынская пісала: „Пошасці лічылі праявай Боскага гневу, караючага людзей за грахі. Апатыя была яскравым выразам здачы нябеснай волі: людзі перасталі араць, сеяць, бо і навошта было тое рабіць, калі чакаўся судны дзень... Вар'яцтва і дэгенерацыя суправаджалі гэтае бедства. Далакопы пазначалі дзверы і панадворкі багатых людзей, каб іх заразіць. У час вялікага мору ў 1652 годзе падпальвалі маёнткі, замкі і цэлыя гарады. Такім чынам згарэлі Люблін, Каліш, Чанстахова... У Варшаве зараза ўспыхнула ў канцы ліпеня, калі акурат адбываўся сейм. Зразу сеймавыя абрады закончылі, а кароль у жніўні выязджае ў Плоцкае, Скярневіцы, Ловіч. Восенню зараза ахоплівае ўсе землі Рэчы Паспалітай...”

Каля 1710 года чума лютуе ў Швецыі, дзе памірае каля ста тысяч людзей, і ў Прусіі, дзе мрэ трыста тысяч. А Прусія ж не за гарамі, пошасць дакочвaецца, мабыць, адтуль і да нас, верагодна, м.інш. да Сямятыч; хаця сярод даследчыкаў даўніны няма пэўнасці ці была гэта чума, ці халера. Найбольш распаўсюджанай у той час мерай ухілення ад любой заразы былі ўцёкі з заражаных месцаў. І шматлікія жыхары Сямятыч шукаюць збаўлення ў лесе каля мясцовасці Суменьшчына; такою назвай даўні летапісец называў сённяшнюю Шумілаўку, што побач гары Грабарка. І стаўся цуд — пошасць пайшла на спад. З таго часу Грабарка стала абрастаць легендай цудоўнага месца з гаючай вадой з тамашняй крынічкі. Чыстай крынічнай вадой...

Як далёка Кітай, і як блізка Грабарка. І глабалізацыя здаецца быць не сённяшняй выдумкай, бо людзі шнырaць па зямлі з найдаўнейшых дзён; можа толькі мы пра гэта мала ведаем. Што Кітай — не за гарамі...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 13